# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 15-16 (349-350) Вялікдзень 1957 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

## *Божай Міласьцю*

***Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне***

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА Й УСІХ БАГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ВЫГНАНЬНІ Й ДОМА ПРАБЫВАЮЧЫХ.**

## *Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне*

## *Хрыстос Уваскрос!*

«ХРЫСТОС УВАСКРОС, сьмерць паканаў, і памершых з грабоў падняў: людзі весялецеся!» (Вялікодны Сьціх).

**УЛЮБЛЕНЫЯ Й ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЁСТРЫ!**

Многа ўжо вякоў, а поўначы, раздаецца па ўсей зямлі таямнічая, радасная вестка: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Адкуль паходзіць яна? Яна паходзіць з самага Неба. Яе прыносяць нам нябесныя Пасланцы-Ангелы, якія апавясьцілі Жонам Міраносіцам: «Што вы шукаеце жывога між памерлымі? Яго няма тут: ЁН УВАСКРОС!» (Лк. 24, 5-6).

Вялікая радасьць на Небе й на зямлі! З году ў год яна пачынаецца на Небе сьпевам Ангелаў і Праведнікаў, памалу прыбліжаецца да нас, і мы злучаемся з хорам іх і натхнёна пяем: ХРЫСТОС УВАСКРОС зь мёртвых, сьмерцяй сьмерць паканаў і тым, што ў грабох, жыцьцё дараваў!

І разам з гэтым сьпевам хвалі новага, сьветлага, радаснага жыцьця ўліваюцца ў душы й сэрцы нашыя й абнаўляюць іх. Мы, слабыя й немачныя, пад уплывам перамогі Ўваскрасеньня Хрыстовага, перараждаемся, стаемся «новым стварэньнем», уваходзім у супольнасьць з Ангеламі сьвятымі! На крыльлях Вялікоднае радасьці мы падымаемся на такія духовыя вышыні, дзе ўжо няма ані гневу, ані варожасьці, ані зайздрасьці, ані крыўды. Мы ўсе ўжо запраўды Браты й Сестры, дзеці Божыя, брацтва Хрыстовае!

І ў гэты радасны мамэнт душы нашыя забываюцца аб усім зямным, бо яны пабачылі Ўваскрослага Тварца свайго, Спаса нашага, у славе Яго! І яны ўжо ня могуць паўстрымаць радасьці свае, яны сьпяшаць падзяліцца ёю з другімі, каб усе радаваліся й весяліліся! Бо-ж у гэты слаўны мамэнт для душаў нашых адчыняюцца дзьверы Раю, і яны ўжо бачаць красу яго! І ў захапленьні мы абыймаем адзін аднаго, навет ворага, і натхнёна ўсклікаем: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Так Ласка Божая прасьвятляе душы нашыя, і мы хоць раз на год спаўняем Запаведзь Збаўцы нашага: «Палюбі Госпада Бога твайго больш за ўсё, і бліжняго свайго, як самога сябе» (Мц. 22: 37, 39).

І гэтая веліч Уваскрасеньня, нашага Вялікага Дня, як Любоў і Ласка Айца нашага Нябеснага, цудоўным дыханьнем вясны пашыраецца па ўсёй зямлі. Некалі нашыя пабожныя продкі ўсе разам раскашаваліся на гэтым балю-Вячэры Збаўцы нашага ў сваёй любай Краіне, празь некалькі дзён усёю грамадой радаваліся й весяліліся, абыймаліся й натхнёна віталі: ХРЫСТОС УВАСКРОС! — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС! І нясьліся па вёсках, сёлах і мястэчках мілыя Богу й людзям цудоўныя Вялікодныя песьні! «Сам Хрыстос па зямлі хадзіў», — пялі яны, і запраўды Сам Хрыстос быў сярод іх, дзяцей Сваіх!



## *Запраўды Ўваскрос!*



А цяпер? Любыя Браты й Сёстры! І цяпер Ён з намі. І цяпер Ён багаслаўляе нас Сьвятлом Свайго Ўваскрасеньня. Ён дараваў нам нашую сьв. БАП-Царкву, якая амаль па ўсіх краінах вольнага сьвету цешыць і радуе душы нашыя, узмацняе, натхняе, надзеяй напаўняе, злучае зь Ім і дабравесьціць: ХРЫСТОС УВАСКРОС! І адказаваюць нам нашыя пакутнікі ўсюды: дома, на катаргах і высылках: ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС! Запраўды цемру, зло й самую сьмерць перамог і нам жыцьцё вечнае дараваў! Таму гэтае дыханьне Нябеснае Вясны весьціць нам усім, што зьбліжаецца й нашая Беларуская Вясна, Вызваленьне. Бо сьвятло Вялікага Дня зьзяе й у цемры паняволенае Беларусі, на катаргах і высылках, і: «Ніякая цемра ня можа агарнуць яго» (Ю. 1, 5). Бо ХРЫСТОС УВАСКРОС! Уваскрэсьне й нашая любая пакутніца Маці-Беларусь! Бо, ахінены Духам Сьвятым, прарок абвесьціў: «І Ўваскрэсьне Бог, і рассыплюцца ворагі Яго, і ўцякуць перад абліччам Ягоным усе, хто ненавідзіць Яго» (Пс. 69, 2).

Таму ўсе разам будзем прасіць Госпада нашага, каб Ён, Каторы перамог уладу шатана Сваім Уваскрасеньнем, з Ласкі Свае вызваліў ад яго нашых пакутуючых Братоў і Сёстраў. Каб неўзабаве настаў дзень, калі мы з усіх канцоў зямлі зьбярэмся разам зь імі, радасна абыймем іх і натхнёна прамовім: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Дарагія нашыя пакутнікі. Час вашага вызваленьня прыйшоў! Гэта нашая слаўная супольная Вялікодная радасьць! «Гэта дзень, што яго стварыў Гасподзь, будзем радавацца й весяліцца ў ім» (Вялікодны Сьціх).

Усячэсныя Айцы й увесь наш слаўны Народзе Беларускі! Зь Вераю й Надзеяй у сэрцах нашых вітаем вас з радасным і пераможным Сьвятам над Сьвятамі — УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ! Неўзабаве прамовіць Ангел: «Упаў, упаў Бабілён, места вялізнае, бо юрным вінам блуду свайго напаіў усе народы» (Адкр. 14, 3). Так, упадзе блудніца, шчэзьне, і ўстане з гробу ў красе й славе нашая любая Радзіма-Беларусь!

Таму, любыя дзеці нашыя, адкінем смутак і жаль, будзем радавацца й весяліцца, бо Хрыстос, Спас наш, ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа будуць з усімі вамі АМІНЬ.

ПАКОРНЫ АРХІЯПІСКАП
СЯРГЕЙ

Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

ПАКОРНЫ АРХІЯПІСКАП
ВАСІЛЬ

Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.

Дана Году Божага 1957
месяца красавіка
Аўстралія-Амэрыка

## Асаблівы матыў Вялікоднае радасьці

Сьвята, асабліва вялікоднае сьвята, як дарагое нам, як поўнае першаважнага значэньня ды таёмнай прывабы гэтае слова! Таму ў быце баларускага народу яно й займае фактычна першае месца. Таму й натхняе яно так багатай і краналючай тэматыкай нашую прыгожую літаратуру, якою запраўды ніколі нельга ўдостань начытацца й налюбавацца. Сьвяткавальны родны абычай — гэта запраўды высокамэтадычная школа культурнага й маральнага ўзгадаваньня ды крыніца духова-ідэйнага ўздыму й сілы. Вякамі, натуральна, ён фармаваўся й маралізаваў народ у сьвятыні, у роднай хаце й грамадзкім асяродзьдзі, куды лепш, чым тыя абубненыя самахвальскай дэмагогіяй паступовыя казённа-штучныя ўстановы, на горка-гнілыя плады якіх тое ўчарашняе самахвальства сяньня мусіць ужо наракаць дый пабайвацца іх. Бязбожная прафанацыя сьвятога народнага абычаю рэлігійнага апаганьвае чалавека, народ, разбурае культуру й цывілізацыю, робячы маральную норму із прыгоннай дубіны... Сяньня гэта сталася ўжо ўсім аж надта ясным, дарма скампрамітаваная пэрфідыя «дает отвод в сторону», яшчэ ўсё замазваючы вочы публічнай апініі тым сваім брутальным «мракобесием», якім акляймілі той сьвяты рэлігійны абычай, звальваючы на яго віну за ўсе свае няўдачы грамадзкага ўзгадаваньня.

Але ня буду апісваць вам, дарагія чытачы, яшчэ так сьвежых у памяці й сэрцы нашых тых прамілых сьвяткавальных абычаяў, а так прыгожа апісаных нашым пісьменствам, апяяных паэзіяй. Чытайце, напрыклад, той прамілы разьдзел 24 у паеме Я. Коласа «Новая Зямля», а ён яшчэ раз да сьлёз ачаруе вас красою й вернасьцяй вобразнасьці родных вялікодных настрояў і занясе ў мілы родны куток сьвяточна падаўнейшаму перажываць усё тое, да чаго пабуджае нас тужны ўспамін; каб пачуцца ўрэшце ў душы сабою, шчырым хрысьціянінам Беларусам, пакуль яшчэ тае да дна ня выснажыла ачужаючае выгнаньне...

Ня буду паўтараць вам так-жа сутнасьці асноўнага аб'екту гэтага сьвята, г. зн. тайніцы Згробуўстаньня Збавіцеля ўва ўсім эпізадычным яго прабегу гістарычным, літургічным, ці настраёваасцэтычным. Аб гэтым ня раз ужо было пісана, дый кажны мае нагоду перажываць гэта ў сьвятыні.

Я манюся тутка ўнаяўніць паважаным чытачом ды зактуалізаваць іншы матыў сьвяткавальнай вялікоднай радасьці, які ў абыдным сьвяточным настроі — паміма свае збаўленнае важнасьці — нейк упушчаецца зь віду й духова ня выкарыстоўваецца. Матывам гэтым ёсьць **непахісная вера й надзея ў нашае пасьмертнае згробуўстаньне,** выплываючае із Хрыстовага збаўленнага Згробуўстаньня; інакш кажучы: **вера ў перамогу нашае фізычнае сьмерці.** Гэта не які-небудзь толькі домысел, а найсьвяцейшая праўда, рэчаіснасьць, дагматычная праўда, у якую мы забавязаны верыць так, як і ў Хрыстовае Згробуўстаньне. Паўтараем мы яе штодзень у маліцьве: «веру ў цела згробуўстаньне». Нажаль гаворым гэта без асаблівай увагі, нейк нясьведама, навет і сьвяткуючы вось гэты Вялікдзень, які дзеля гэтага й павінен быць уважаны днём вялікім. А калі-б мы жыва сабе ўяўлялі тое, што гаворым, дык мы былі-б духовымі волатамі, заўсёды гатовымі да гэройства, як тыя першыя хрысьціяне мучанікі, для якіх ніякія жыцьцёвыя труднасьці ня былі страшныя, якіх ад ідэйнай пасьвяты не магла й сьмерць адстрашыць, бо па сьмерці непахісна спадзяваліся новага жыцьця.

Якга з боку гэтай надпрыроднай карысьці мы павінны ўсьведамляць сабе значэньне Вялікадня й тужыць за ягонымі прыемнасьцямі ня толькі матар'яльнымі, што

«Із смакам елі і багата...»

ды думаць, што толькі на гэта

«Даў Бог людзям сьвята...» (Колас),

Ня думаю, што мне так цяжка будзе паглыбіць у вас веру ў гэтую ня менш магчымую, чым прыемную праўду, як тому сьв. Паўлу Апосталу, што першы раз выступіў красаць тую веру ў сцэптычным грэцкім Арэопагу, бо хоць вы жывяце ў часох ня меншага сцэптыцызму, то ўсё-ж зьяўляецеся сынамі тых, так прыгожа ахарактарызаваных у нашым эпосе, бацькоў, што верылі амаль таксама, як першыя хрысьціяне.

Пра тую няўдачу сьв. Паўла, дык запраўды нельга чытаць без спачуцьця. Адчуваў тую няўдачу й сьв. Лукаш, пішучы «Апостальскія Дзеі» (Рэьдз. 17, 16-34), бо не бяз лёгкае іроніі ў бок культурнага Атэнскага сьвету ўстаўляе за-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Сіла духовага супраціву

Дзьве праблемы — змаганьне зь «перажыткамі капіталізму ў сьведамасьці людзей», тое, што ў вучэньні ленінізму называецца «перавыхаваньнем старэйшага пакаленьня», і выхаваньне моладзі ў духу камуністычнае маралі, якія, стаўшы на шляху да савецкага «сацыялізму, зыйшліся ўсупор з палітыкаю «генэральнае» лініі ЦК КПСС на саракавым годзе бальшавіцкага перавароту, не зьяўляюцца новымі. Яны выйшлі із самой прыроды бальшавізму і адразу ператварыліся ў вялікую і вельмі загрозьлівую небясьпеку для самога існаваньня гэтак званае «дыктатуры пралетарыяту».

«Перажыткі капіталізму» адштурхоўвалі народныя масы ад «сацыялістычнага» шляху і перашкаджалі ягонаму руху наперад; на моладзь, што апынулася на гэтым шляху і несла з малаком мацеры ўспрынятую ад бацькоў псыхалёгію і асновы агульналюдзкае маралі, ленінская партыя таксама не магла разьлічваць.

Бачачы вялікую небясьпеку палажэньня, Ленін у сваёй прамове на III зьезьдзе РКСМ у 20-ым годзе асудзіў агульналюдзкую мараль і загадаў, каб «уся справа выхаваньня, асьветы і выхаваньня сучаснае моладзі была выхаваньнем у ёй камуністычнае маралі», бо, як гаварыў ён, «у васнове камуністычнае маральнасьці ляжыць барацьба за ўмацаваньне і завяршэньне камунізму». Аб сур'ёзнасьці праблемаў выхаваньня і перавыхаваньня і важнасьці іхнага вырашэньня найлепей сьветчыць прамова Сталіна на XIII зьезьдзе ВКП(б) 17-га чэрвеня 1924 году. Ён гаварыў: «Адно зь істотных заданьняў партыі ў эпоху дыктатуры пралетарыяту палягае ў тым, каб разгарнуць работу па перавыхаваньню старых пакаленьняў і выхаваньню новых у духу дыктатуры пралетарыяту і сацыялізму. Старыя звычаі і звычкі, традыцыі і забабоны, што засталіся ў спадчыну ад старога грамадзтва, зьяўляюцца самым небясьпечным ворагам сацыялізму. Яны, гэтыя традыцыі і звычаі, трымаюць у руках мільённыя масы працоўных, яны ахапляюць часам цэлыя пласты пралетарыяту, яны ствараюць часам вялізарную небясьпеку для самога існаваньня дыктатуры пралетарыяту. Таму барацьба з гэтымі традыцыямі й звычаямі, абавязкавае пераадоленьне іх ува ўсіх сфэрах нашае работы, нарэшце, выхаваньне новых пакаленьняў у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму — зьяўляюцца тымі чарговымі заданьнямі нашае партыі, без ажыцьцяўленьня якіх немагчыма перамога сацыялізму.»

І вось, як мы ведаем, выконваючы «мудрыя» загады сваіх правадыроў, на змаганьне зь перажыткамі капіталізму ў сьвядомасьці людзей і на выхаваньне моладзі ў духу камуністычнае маралі, гэтае асновы ўсяго камуністычнага выхаваньня (антырэлігійнага, інтэрнацыянальнага, выхаваньня савецкага патрыятызму, сацыялістычнага гуманізму, камуністычнага стаўленьня да працы і сацыялістычнае ўласнасьці), камуністычная партыя кінула ўсіх і ўсё: школы і прэсу, клюбы і кіно, партыйныя, камсамольскія і піянэрскія арганізацыі, мільёны прапагандыстых і агітатараў, мільёны народных грошай і мільёны паліцыйных вачэй і рук... «Перажыткі капіталізму» перавыхоўваліся страхам, голадам, турмамі і канцэнтрацыйнымі лягерамі, а галовы і душы дзяцей і моладзі набіваліся марксызмам і ленінізмам.

Пасьля сыстэматычных, хітра скаардынаваных ідэялягічных «штурмаў» на шырокім фроньце сацыялістычнага будаўніцтва Молатаў у сваім дакладзе «Да дваццаціґодзьдзя Кастрычніцкае рэвалюцыі» ганарова заявіў: «што ў нашай краіне стварылася нябачанае раней нутраное маральнае і палітычнае адзінства... сацыялістычнае грамадзтва: і што «такое маральнае і палітычнае адзінства, прасякнутае глыбокім інтэрнацыяналізмам, канчальна згуртуе ў вадну цэласьць народы і народнасьці Савецкага Саюзу. У ім будуць бачыць правобраз свае будучыні і народы іншых краін.

«Маральна-палітычнае адзінства народу ў нашай краіне мае і сваё жывое ўцелаўленьне. У нас ёсьць імя, якое сталася сымбалем перамог сацыялізму. Гэтае імя разам з тым сымбаль маральнага і палітычнага адзінства савецкага народу. Вы знаеце, што гэтае імя — Сталін!».

Такім чынам, Молатаў заявіў на ўвесь сьвет аб тым, што і праблема перавыхаваньня старэйшага пакаленьня і праблема выхаваньня моладзі ў духу камуністычнае маралі ўжо разьвязаныя камуністычнаю партыяй і болей ня існуюць, гэта значыць бясклясавае сацыялістычнае грамадзтва пабудавана... Уся камуністычная прэса паўтарала зь дня ў дзень словы старога бальшавіка, і «Правда», камэнтуючы прамову найлепшага сталінца, пісала:

«Магутнасьць сілы сацыялістычнага грамадзтва палягае ў ягоным адзінсьцьве, гэта значыць у адзінсьцьве ўсяго савецкага народу, выхаванага ў духу марксысцка-ленінскае ідэялёгіі камуністычнай партыяй на чале з мудрым правадырсм сусьветнага пралетарыяту таварышам Сталінам. Савецкі народ, асабліва-ж савецкая моладзь, выхаваная ў духу высокае камуністычнае маралі, як ніколі згуртаваны вакол камуністычнае партыі, вакол геніяльнага будаўніка бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва табарыша Сталіна».

Аб вялікай палітычнай сьведамасьці масаў, аб ролі і значэньні моладзі, аб «бязьмежнай» адданасьці моладзі справе партыі, справе камунізму пісалася і гаварылася вельмі шмат. Адным словам, пабодля савецкае прапаганды, партыя і народ складалі, маналітную цэласьць бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва».

Бяручы на ўвагу ўсё гэта, паўстаюць лягічныя пытаньні. Што сталася з «бясклясавым сацыялістычным грамадзтвам»? Было яно ці ня было? Чаму даўно, здавалася, разьвязаныя праблемы, выявіліся не разьвязанымі, зноў паўсталі перад кіраўнікамі КПСС і на 40-ым годзе бальшавіцкай дыктатуры моцна загражаюць ня толькі камунізму, але і існаваньню самога СССР? Як гэта сталася тое, што «выхаваныя» і «перавыхаваныя» выявіліся ня толькі нявыхаванымі і неперавыхаванымі, а і вялікімі супраціўнікамі савецкай сыстэмы і КПСС?

Заява, здаецца, парадаксальнай, але праўдзівай. Чым-жа гэта тлумачыцца? Тлумачыцца гэта тым, што моладзь ня ўспрыняла «духу камуністычнай маралі», засталася духова вольнай, і сыстэма саракагадовага бальшавіцкага тэрору як была, так і засталася варожай народам і, асабліва, моладзі, якая, будучы галоўнай рухаючай сілай працэсу гістарычнага разьвіцьця, становіць і будзе станавіць сабою найбольшы супраціў дыктатуры камуністычнае партыі.

Было-б памылковым думаць, што вынікі другой сусьветнай вайны, пашырэньне гэтак званага «сацыялістычнага лягеру» і штучны шум аб «кансалідацыі сілаў камуністычнага блёку» спрыялі перавыхаваньню масаў і выхаваньню моладзі ў духу камуністычнай маралі. Наадварот, сьвежы вецер вольнага сьвету, уварваўшыся ў савецкую турму народаў праз прабітае ў Эўропу вакно, стаўся вялікай жыцьцядайнай сілай; ён прысьпешыў рост самаўсьведамленьня масаў, рост іхнага дэмакратычнага думаньня і сілу палітычнага супраціву палітыцы і практыцы рэакцыйнага савецкага камунізму.

Усё гэта выклікала вялікі перапалох у Крамлі. Справа камуністычнага выхаваньня моладзі, як і перавыхаваньня старэйшага пакаленьня — учарашняе савецкае моладзі — была пастаўленая на парадак дня 20-га зьезду КПСС. Зьезд прыняў цэлы шэраг пастановаў, у якіх выразна заявіў, што «выкараненьне перажыткаў капіталізму ў сьвядамасьці людзей» і «выхаваньне моладзі ў духу высокае камуністычнае маралі» зьяўляюцца першачарговымі задачамі партыі і камсамолу.

Трывожны шум аб «распаўсюджаньні агідных спраў сярод моладзі», аб патрэбе ўзмацненьня ідэйна-палітычнай работы ў масах пачаўся пасьля сьнежаньскага Пленуму ЦК КПСС. Першай, як і заўсёды выступіла «Правда» з 29-га студзеня ў перадавым артыкуле «Узмоцніць палітычную работу ў масах». Яна пісала:

«Сёй-той у нашай краіне імкнецца выкарыстаць у сваіх несавецкіх мэтах труднасьці і недахопы, што ўсё яшчэ маюць месца ў нас, распаўсюджваюць усякія правакацыйныя чуткі, прыкрываючы свае дзеяньні фальшывымі словамі аб крытыцы і самакрытыцы, лёзунгамі барацьбы «за дэмакратыю».

Ня «сёй-той», а ўсе народы Савецкага Саюзу несьлі і нясуць на сваіх плячох гэтыя «труднасьці і недахопы» — ярмо камуністычнае сыстэмы і дыктатуры. І таму ня было нічога дзіўнага, калі «Правда» заявіла, што «... асобныя камуністыя і партыйныя кіраўнікі плятуцца ў хвасьце падзеяў, не даюць належнага адпору вылазкам нездаровых элемэнтаў... скачваюцца на антыпартыйныя пазыцыі...» А мы-ж ведаем, што не «асобныя», а тысячы, дзесяткі тысяч савецкіх камуністых і партыйных кіраўнікоў «плятуцца ў хвасьце» і «скачваюцца» з пазыцыяў «генэральнай лініі» камуністычнае партыі, інакш кажучы, лініі хрушчоўскага «калектыўнага кіраўніцтва».

Больш моцным быў голас «Правды» з 2-га лютага ў ейнай перадавіцы «Пад сьцягам пралетарскага інтэрнацыяналізму». У ім ворган КПСС шчыра прызнаўся, што на «столбовой дороге» да камунізму ёсьць «шмат правакацыяў і антысацыялістычных выступленьняў усіх выглядаў...»

Аб слабасьці палітычнай работы ў масах і выхаваньні моладзі ў духу камуністычнае маралі, аб заданьнях партыі і камсамолу шмат пісалася і ў іншых часапісах СССР. Ня менш чыталася рэфэратаў ня толькі ў клюбах, навучальных установах, на фабрыках і заводах, але і ў калгасах і саўгасах, у МТС і на ўсёй хрушчоўскай цаліне. З усяго напісанага і сказанага вынікае адно: камуністычная партыя, супраць якое пачалі выступаць шырокія народныя масы, забіла вялікую трывогу.

Асабліва вялікая трывога паднялася ў Беларусі. У студзэньскім нумары «Камуніста Беларусі», напрыклад, загадчык аддзелу прапаганды і агітацыі ЦК КПСС Халіпаў выступіў зь вялікім артыкулам «Аб некаторых пытаньнях палітычнай работы». Гэты падгалосак Крамля сьцьвердзіў, што «некаторыя чужыя элемэнты, выкарыстоўваючы ў сваіх варожых мэтах барацьбу нашай партыі супраць культу асобы і яго вынікаў, пачынаюць падвяргаць нападкам нашу сацыялістычную сыстэму, наш лад, нашы прынцыпы». Халіпаў гаворыць, што «такія элемэнты складаюць мізэрную, нязначную меншасьць» і што «яны атрымліваюць дастойны адпор з боку многамільённага калектыву чэсных і добрасумленных людзей».

Здавалася-б, што няма ні страху, ні бяды, ні трагэдыі. Але ўвесь сакрэт палягае ў тым, што гэтая «меншасьць» складае бальшыню, на чале якое стаіць беларуская моладзь, а бяз гэтае бальшыні беларускага народу, безь беларускай моладзі ня могуць быць вырашанымі «нутраныя задачы, пастаўленыя 20-м зьездам партыі і сьнежаньскім Пленумам ЦК КПСС». Калі-б мова йшла аб меншасьці, як гаворыць Халіпаў, дык навошта-ж тады было гаварыць, што «наш першачарговы абавязак цяпер заключаецца ў тым, каб карэнным чынам палепшыць усю работу па выхаваньню людзей, бязьлітасна выкрываць усякія праяўленьні буржуазнай ідэялёгіі, няўхільна ўзьнімаць палітычную сьвядомасьць самых шырокіх слаёў насельніцтва, разьвіваць у працоўных высокароднае пачуцьцё патрыятычнага абавязку». Значыцца, справа ня ў «меншасьці», а ў **«шырокіх слаёх насельніцтва — у цэлым беларускім народзе,** перад трагедыяй якога камуністычная партыя на 40-ым годзе дыктатуры ставіць «вырашэньне нашае важнейшай задачы,... выхаваньне камуністычнай маралі, каб гэтая ма-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Асаблівы матыў Вялікоднае радасьці

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

цемку: «Усе-ж Атэнцы й прыходжыя чужынцы аб нічым іншым ня рупіліся, як толькі аб расьсяваньні, ці слуханьні навінак...»

А прамова сьв. Паўла запраўды была годная ўвагі. Відно, як рыхтаваўся да яе гэны духовы заваёўнік народаў, разглядаючы й студыюючы гэную слаўную, але спышнелую, сталіцу філязофіі, чытаючы із гордых стройных калюмнадаў, якога духа меціме слухачоў у ёй ды мяркуючы ад чаго-б якга зачаць гаварыць аб праўдзівым Богу там, дзе аж раілася ад рознага балваньня й бажніц. І была данароўленая да вуха стухачоў тая слаўная прамова.

«Мужы атэнскія, — казаў ён, — з усяго я віджу, што вы нейк асабліва пабожныя. Прайходзячыся бо ды ўглядаючыся на вашыя сьвятасьці, знайшоў я так-жа аўтар з напісам: **«Няведамаму Богу».** Вось таго, якога ня ведаючы вы шануеце, я вам абвяшчаю...»

І павучыўшы далей аб праўдзівым самаісным Богу Стварыцелю і Ўсегаспадару сусьвету ўсемагутным і ўсюдыприсутным ды аб іхным шуканьні Бога праз тое сваё многабожжа й любаваньне сьвятынямі, увяраў іх, што яны род Божы, аб чым навет і паэты іхныя казалі. А калі яны род Божы, дык не павінны з такою няведаю да Бога адносіцца. І калі на часы гэтай няведы глядзеў Бог дагэтуль суцерпна, дык цяпер вось абвяшчае людзям, каб усе пакутавалі, таму што пастанавіў дзень, у якім судзіціме сьвет справядлівасьцяй, праз вызначанага Мужа, запэўніваючы ўсіх, падняцьцем яго памёршага з гробу...» «І як пачулі яны — дадае аўтар «Дзеяў» — аб (пасьмертным) згробуўстаньні, дык некаторыя падкпівалі, а некаторыя адманваліся: Аб гэтым паслухаем цябе другім разам».

Так Павал і выйшаў ад іх. І не залажыў ані аднае грамады хрысьціян у Атэнах. У маральна-згнілым Карыньце навет гэта яму ўдалося, а ў «вучоных» Атэнах не знайшоў зразуменьня за адно толькі слова «згробуўстаньне». Аднаго слова хапіла для софістычна-зблазьнелых мысьліцеляў вялікага Арэопагу, каб асудзіць і высьмеяць рэлігію, якую прапаведваў Павал. Слова тое — імагінавалі гэныя сафістыя — кампраміттавала хрысьціянства й зводзіла яго навуку да наіўнае фантазіі. Пазьней і сьв. Аўгустын пісаў, што «у ніякай іншай рэчы так ня супраціўляецца сьвет хрысьціянскай веры, як ейнай праўдзе аб згробуўстаньні мёртвых».

А ці-ж нашым зматэр'ялізаваным ды так абязбожаным стагодьдзі надутых самапэўнасьцяй і раскрытыкаваных адносна рэлігійнага навучаньня ёсьць менш? Бачым, як сяньняшняе навучаньне змушана аглядна абходзіць глыбейшую й канкрэтную застанову над канчатковаю догмаю хрысьціянскае веры ды канчатковым словам нашага быцьця. Горш таго — слова «згробуўстаньне» што-раз часьцей у нашай вялікоднай бяседзе набірае самога толькі патэтычна-пераноснага значэньня, уходзіць у склад і стыль банальных патэтычных выказаў; тады як яно павінна мець найвыразьнейшае рачовае значэньне.

А якое-ж тое рачовае значэньне гэтага слова?

У вагульна прынятым сэньсе яно азначае **ажыцьцё па сьмерці, паварот да жыцьця таго, што было памёршым.** Не такое ажыцьцё, як напрыклад ажывае прырода вясною ад зімовага амярцьвеньня, бо жыцьцё ў прыродзе зімою фактычна ня ўмірае, толькі спыняе вэгэтацыйныя функцыі, сьпіць. У нашым-жа рэлігійным значэньні слова «згробуўстаньне» мае куды глыбейшы, істотны сэнс, яно азначае паноўную злуку жывое душы з ажыўляючымся ў тым-жа мамэньце целам, якое была пакінула душа падчас сьмерці. Добра гэта абразуе працэс прарастаючага зярняці, збуцьвелага ў зямлі.

Як ведама кажнаму з нас — чалавек зьяўляецца істотай двуіснай: фізычнай (цела) і духовай (душа). Калі цела згодна з законамі раскладу матэрыі станецца няздатным інструмэнтам для душы, тады яна ў сваім духовым стане, якога мы пачувамі (змысламі) ніяк дасьледзіць ня можам, існуе далей сваім жыцьцём у вечнасьці паза часам (час бо гэта паняцьце зьвязанае толькі з матэрыяй зьнішчальнай), але не ў паўнаце свайго чалавечага быту; камплетным чалавечым жыцьцём, і то палепшаным, яна зажыве толькі ў мамэньце поўнае злукі із сваім целам пры канцы гісторыі; што будзе існым згробуўстаньнем. Мёртвае бяздушнае цела сілай усемагутнасьці Божай вернецца да **жыцьця ў асаблівым стане,** Богам паднесеным, перадухоўленым, каб тварыць з душою ніколі неразлучную адзінасьць

Гэта вось і ёсьць праўда веры аб згробуўстаньні. Праўда прызабытая й мала ўсьведамляная ў нашым хрысьціянскім думаньні, навет і ў мамэньце спусканьня дарагога сэрцу пакойніка ў сьвежы гроб, калі вуха наша так няміла ўражае грукат грудак зямлі, спадаючых на века дамавіны. Думка аб згробуўстаньні ў такім мамэнце асалодзіць нам жаль. Згробуўсталы Хрыстус выслужыў-жа гэтаму пакойніку згробуўстаньне. Сьв. Павал і пакліка-ецца на яго: «Не хачу я, браты, аставіць вас у няведаньні аб (долі) памёршых, каб вы ня сумавалі, як тыя, што ня маюць надзеі. Калі бо мы верым, што Езус быў памёр і згробуўстаў, так і памёршых праз Езуса прывядзе Бог зь Ім. Гэта мы вам кажам словам Госпадавым» (І Тэсс. 4, 13—15). А сьв. Ян: «Бо як Айцец абуджае ўмерлых і ажыўляе, так і Сын каго хоча ажыўляе... Запраўды, запраўды кажу вам, прыйдзе пара... калі ўмёршыя пачуюць голас Сына Божага, ды пачуўшы ажывуць... Хто спажывае цела маё й п'е маю кроў, мае жыцьцё вечнае й я збуджу яго зь мяртвых у вапошні дзень» (Ян. 5, 21-29; 6, 54). Так і ўсе апосталы ды іхныя супрацоўнікі й наступнікі павучалі, а верныя ў гэтым сэньсе іхнюю навуку прыймалі. Гэтак вучыць уся Традыцыя Айцоў Хрысьціянства ды сяньняшняя Тэалёгія, навукова даказваючая ня толькі із пісьма Сьв., але і з чыста разумовага гледзішча. Бо-ж ідэя згробуўстаньня, хоць перавышае розум, то аднак не працівіцца яму 1) ані з увагі на самога Бога: бо выяўляе ўсёведу і ўсёмагутнасьць Ягону; 2) ані з увагі на Хрыстуса: бо-ж калі мы Яго, згробуўсталага, чэлесы (часткі), дык гэтыя чэлесы разам з Галавою сваёю павінны згробуўстаць; 3) ані з увагі на чалавека: якога хіба-ж не на тое Прамудры Бог стварыў, каб адна палавіна яго жыла, а другая гніла; спрычыненую грахом гэтую анармальнасьць Збавіцель напраўляе адкупленьнем, завяршаючым актам якога й ёсьць згробуўстаньне.

Пэўна-ж — экспэрымэнтальная (навет і найбольш прэтэнсыянальная) навуковасьць, прыкладам, хімія (сяньняшняя прынамсь хімія ўсё яшчэ бясьсільная адносна гэтулькіх зьявішч) выясьніць нам гэтую высокатайнічную праўду ня можа. Дый для нас хрысьціян, яшчэ не акалечаных цынізмам атэістычнага «мракобесия», гэта не канечне й патрэбнае — хопіць тут навукі гістарычнай, філязафічнай ды дагматычнай. Мы бо ня ўшчэмліваем нашай думкі на кручкі самай толькі матэр'ялістычнай формулы, але даём ёй вольны ўзьлёт у паднебную высь...

**Задума**

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Масква падмацоўвае свае атамныя шантажы ўзрывамі вадародных бомбаў, праўдападобна спадзяючыся, што гэта будзе найбольш пераконваючым аргумэнтам. Ангельскае міністэрства абароны паведаміла, што 6-га красавіка быў зарэгістраваны новы атамны выбух у Савецкім Саюзе. Амэрыканская атамная камісія пацьвердзіла гэтую вестку. Гэта ўжо другі ў гэтым месяцы атамны выбух у СССР, які зарэгістравалі заходнія сэйсмаграфы.

Да сяньняшняга дня Масква ані словам ня ўспомніла аб гэтым. Калі заходнія дзяржавы робяць гэта зь вялікім шумам і помпай, з папярэджаньнямі, рэпартэрамі, якія падрабязна апісваюць выбух ды свае апісаньні ілюструюць здымкамі — бальшавікі лузаюць свае бомбы моўчкі.

Усе гэтыя вадародныя гульні ненажарты непакояць навукоўцаў, а гэтыя ў сваю чаргу — увесь вольны сьвет. Ведамы японскі фізык прафэсар Ватанабэ апублікаваў вынікі сваіх дасьледаваньняў рэактыўнасьці асадкаў у атмасфэры. Ён сьцьвердзіў, што радыяактыўнасьць асадкаў у Японіі бывае ў два разы вышэйшая пасьля савецкіх атамных выпрабаваньняў, чымся пасьля амэрыканскіх. Гэта зьявішча можна тлумачыць бліжэйшай адлегласьцяй, але некаторыя вучоныя дашукоўваюцца ў гэтым большай магутнасьці савецкіх бомбаў.

Наагул вучоныя, якія сочаць за рэактыўнасьцяй у атмасфэры выказваюць вельмі сумныя прагнозы. Паводле іхных цьверджаньняў цяперашняя насычанасьць атмасфэры радыяактыўнымі часткамі так вялікая, што, калі навет у дадзены мамэнт не адбіваецца на здароўі людзей, ейны ад'емны уплыў можа выявіцца за 10-20 год. Рэч зразумелая, што гэтыя цьверджаньні могуць быць перавялічанымі, тым-больш, што гэта ёсьць апінія пераважна японскіх фізыкаў, якія могуць мець камплексы пасьля Гірашымы й Нагасакі, аднак прыказкавы лот праўды ў гэтым напэўна ёсьць. Таму ня дзіва, што на Захадзе паўстае войстрая акцыя супраць атамных выпрабаваньняў. Бадай найбольш баіцца радыяактыўнасьці лідэр ангельскіх лейбарыстых Гэйцкэл, хаця гэты страх пахне партыйнай дэмагогіяй. у падкамуністычных краінах, дзе ўсё, і страх, адбываецца на загад партыі, баяцца менш з простай прычыны — ня было загаду....

Пад гукі гымну «Deutschland über Alles», які йграла аркестра францускай жандармэрыі, ў Фонтэнэблё генэрал Ганс Шпайдэль пераняў функцыю камандзера саюзных наземных сілаў НАТО ў цэнтральнай Эўропе.

Хаця гэта намінацыя выклікала жывыя спрэчкі й пратэсты, перадусім інсьпіраваныя Савецкім Саюзам, перамог здаровы глузд, што перад аблічам пагрозы бальшавіцкай экспансыўнасьці трэба забыцца аб усіх антаганізмах.

*

Паміж Злучанамі Штатамі Амэрыкі й Саўдаўскай Арабіяй было падпісанае пагадненьне, паводле якога Злучаныя Штаты забавязаліся пераняць навучаньне паветранага й наземна-тэхнічнага пэрсаналу ваенна-паветраных сілаў Саўдаўскай Арабіі. Апрача гэтага Злучаныя Штаты дамогуць Арабіі стварыць ваенна-марскія сілы й будуць даваць звычайнае азбраеньне. Узамен за гэта Саўдаўская Арабія згадзілася на далейшае існаваньне на ейнай тэрыторыі амэрыканскай стратэгічнай ваенна-паветранай базы.

Рэч зразумелая, гэта выклікала войструю лаянку Масквы, якая ўсё падводзіць пад супольны назоў «умешваньне ў нутраныя справы» нейкай краіны. Аднак крывавае здушэньне ўсходня-нямецкага паўстаньня й яшчэ больш крывавы разгром вугорскай рэвалюцыі Масква называе «братэрскай дапамогай» народам Нямеччыны й Вугоршчыны.

Што-ж — дыялектыка...

*

Якая ўсё-ж такі розьніца паміж дэмакратыямі — нармальнай і «найбольш перадавой» бальшавіцкай! Польшча атрымала ад Амэрыкі пазыку на 75 мільёнаў даляраў. Аднак, каб не парушыць закону, які забараняе дапамагаць падкамуністычным краінам, амэрыканскі ўрад мусіў праводзіць розныя транзакцыі з прыватнымі банкамі й нямецкім урадам.

Маскоўскія завадзілы ня турбуюцца такімі драбніцамі. За адным росчыркам пяра Булганін ці іншы Хрушчоў высылае з Савецкага Саюзу ў Эгіпт, Сырыю ці, Бог ведае куды, транспарты зброі на сотні мільёнаў.

Аднак, калі ў праўдзівай, не «перадавой» дэмакратыі ёсьць слабасьць — там ёсьць і сіла, якой ніколі ня могуць мець дыктатары і якой яны баяцца...

# У паняволенай Беларусі

### «ШЧАСЬЛІВАЕ ДЗЯЦІНСТВА»

Аб палажэньні дзяцей ў Менскай санітарна-лясной школе газэта «Советская Белоруссия» з 23-га сакавіка піша наступнае:

«Усе заняткі праводзяцца ў цесных, дрэнна праветраных клясах». Толькі некалькі дзён таму ў памешканьнях зрабілі фортачкі. А школа-ж існуе ўжо шмат гадоў. Няма ў школе ні спэцыяльных альтанак, ні тэрас. Дзеці сьпяць усё ў тых-жа няўтульных, брудных памешканьнях. У спальнях цесна, паветра затхлае, цяжкое. Тут уся дзіцячая вопратка, каля печак сушыцца абутак».

Пра харчаваньне гаворыцца гэтак:

«У парадку дня прадугледжана пяціразовае харчаваньне. Але гатуе дзецям ежу тут прыбіральніца, якая ня ўмее сьпячы пірага і ня ведае, што апрача гэтак званага фруктова-ягаднага кісялю, ёсьць у кулінарыі нейкія яшчэ трэція стравы».

З гэтага-ж артыкулу даведваемся, што ў Менскай санітарна-лясной школе «кухня зь вечна напаленай плітой» месьціцца ў вадным памешканьні зь дзіцячай спальняй.

«Ня так даўно ў гэтай школе здарыўся пажар. І пажарная інспэкцыя сурова загадала адлучыць кухню, пабудаваць ёй другое памешканьне. Але пакуль усё астаецца па-ранейшаму».

Чаму-ж такі вялікі непарадак ў Менскай санітарна-лясной школе? Газэта тлумачыць гэта тым, шо ні дырэктар школы, і ўвесь пэрсанал ня цікавяцца ні працай школы, ні дзецьмі, што ў школе «пануе казёншчына».

### МОЛАДЗЬ — НАЙБОЛЬШАЯ ЗАГРОЗА

Як ужо пісалася ў «Б-не», беларуская моладзь із сваімі выразнымі антыбальшавіцкімі паглядамі і перакананьнямі становіць паважную праблему для партыйнага кіраўніцтва на Беларусі. Беларуская савецкая прэса перапоўненая артыкуламі й гутаркамі на тэму ідэялягічнага выхаваньня моладзі, у якіх поўна нараканьняў, пагрозаў і зухаватага задавацтва моладзяй, якая нібыта верна стаіць на варце будовы камунізму. Аднак факты, узятыя із савецкае прэсы, цьвердзяць аб адваротным зьявішчы. Прыкладам, у канцы лютага сёлета адбыўся быў VII пленум ЦК ВЛКСМ, які прыняў пастанову «Аб паляпшэньні ідэйна-выхаваўчай работы камсамольскіх арганізацыяў сярод моладзі». Вось, між іншага, што пісала менская «Зьвязда» (1. 3. 57), паведамляючы сваіх чытачоў аб праведзеным камсамольскім пленуме:

«...Некаторыя юнакі і дзяўчаты праяўляюць утрыманцкія настроі, добра засвоіўшы свае правы, забываюць аб абавязках перад грамадзтвам, патрабуюць ад дзяржавы многа, а даюць мала.

«Шмат якія камсамольскія арганізацыі, камітэты камсамолу аслабілі ўвагу да ідэйнай загартоўкі моладзі, не вядуць наступальнае барацьбы супраць падкопаў буржуазнае прапаганды, слаба выхоўваюць моладзь у духу бальшавіцкае пільнасьці.

«Нельга прайсьці і міма таго, што камсамольскія арганізацыі недастаткова займаюцца маральным выхаваньнем моладзі, слаба змагаюцца з п'янствам, хуліганствам, з тым, што некаторыя маладыя людзі вядуць бязьдзейны спосаб жыцьця...

Дарма тая-ж «Зьвязда» заклікае «мацней разьвіваць рэвалюцыйную энэргію моладзі». Гэтая рэвалюцыйная энэргія якраз найбольш і турбуе сяньняшніх валадарсў расейскае імпэрыі.

### АМАРАЛЬНЫЯ ПАВОДЗІНЫ СТУДЭНТАЎ І АБЫЯКАВЫЯ АДНОСІНЫ ВЫКЛАДЧЫКАЎ

У вартыкуле «Выхоўваць моладзь ідэйна загартаванай», у «Зьвяздзе» з 24. 3. 1957 г. войстра крытыкуюцца студэнты Беларускага палітэхнічнага інстытуту й іхная шматтыражка **«Совецкі інжынэр»**. «Зьвязда» гаворыць:

«Нажаль, газэта «Совецкі інжынэр» мала піша аб ідэйнай загартоўцы студэнтаў. Магчыма, палітычна-выхаваўчая работа ў інстытуце пастаўлена на належную вышыню? Не, факты сьветчаць аб адваротным, прычым факты вельмі сумныя Часта ў інстытут звоняць зь міліцыі: «Вашы студэнты хуліганілі ў п'яным выглядзе». Факты п'янкі, дэбошу, амаральных паводзін з боку студэнтаў палітэхнічнага інстытуту за апошні час сталі частымі. Дзесяткі зь іх былі затрыманы міліцыяй або прачыналіся ў працьвераждальніку, некалькі чалавек за хуліганства аддадзена пад суд. Хіба адно гэта ўжо не гаворыць аб тым, што з ідэйным выхаваньнем у інстытуце ня ўсё добра?» — пытаецца «Зьвязда».

Галоўную прычыну ўсяго гэтага «Зьвязда» бачыць у выкладчыках. Яна піша:

«... у інстытуце ёсьць яшчэ такія выкладчыкі, якія менш за ўсё думаюць аб ідэйным выхаваньні студэнтаў. Яны суха выкладаюць законы матэматыкі. Гэта, вядома, вялікі недахоп у выхаваньні. Дык чаму-ж рэдакцыя (маецца на ўвазе рэдакцыя шматтыражкі «Совецкі інжынэр» — заўвага наша Д. У.) аберагае гонар мундзіра такіх чыноўнікаў, не назаве адкрыта іх прозьвішчы, не праанялізуе лекцыі аднаго зь іх, а абмяжоўваецца бяскрыўднымі, далікатнымі намёкамі?» — дзівіцца газэта «Зьвязда».

Гаворачы пра асобных студэнтаў нібыто выхаваных у духу марксызму-ленінізму, газэта гаворыць:

«Але, нажаль, ёсьць і проста адваротныя факты, існуюць яшчэ й такія групы, дзе студэнты дзеляцца на «гарадзкіх» і «вясковых», дзе кажны сам па сабе, дзе запраўнае таварыства падмяняецца **кругавой парукай** (падкрэсьленьне наша — Д. У.). Іменна адсюль ідуць п'яныя дэбошы й скандалы, іменна тут больш за ўсё парушаюць дысцыпліну... Аднак у партбюро і ў камсамольскім камітэце не заўважаюць таго факту, што ў большасьці груп студэнты знаходзяць дзесяткі прычын, каб не застацца на палітінфармацыі».

Крытыкуючы шматтыражку «Совецкі інжынэр», «Зьвязда» далей піша:

«Толькі нізкім узроўнем выхаваўчай работы можна вытлумачыць тое, што сярод студэнтаў сустракаюцца факты амаральных учынкаў, няправільныя погляды на сваю будучую работу, бяздумнае перайманьне скажоных заходніх мод: стыляжніцтва ў адзеньні, дзікія скокі й выкрутасы ў часе танцаў і г. д.»

☆

### ВЫНІКІ «КАМУНІСТЫЧНАГА ВЫХАВАНЬНЯ»

«Чырвоная Зьмена» з 24. 3. 57 падае такія абразкі:

— «Сыночак, можа ты захварэў? Чаму ты такі хмурны? Можа табе, сыночак, малачка, катлетку ці цукерачку?

А сын паварочваўся на другі бок і не ўдастойваў бацьку навет адказам. Толькі зрэдку кідаў праз зубы:

— Ідзі ты...

☆

— А, ты зноў тут! А ну, паварачвай хутчэй ды вылятай адсюль. Ух! — рослы хлопец падняў кулакі і затрос іх над галавой старэнькай. Яна моўчкі пайшла да дзьвярэй. На парозе, відаць, хацела спыніцца, але зноў пачуўся грубы, гнеўны воклік:»

— Пайшла вон, а то змажу!»

Гэта — вынік «камуністычнага выхаваньня» і разьбіцьця сям'і.

### «ЗАКАЗ-ЖА ЗРОБЯЦЬ ЦЕРАЗ ГОД»

Гэты-ж нумар «Чырвонай Зьмены» у сэрыі **«З алоўкам па Мінску»** піша:

«У Мінску ёсьць «Атэлье Мод».  
І не адно.. Але заказы  
Там не прымаюцца адразу:  
Заўжды таўчэцца там народ,  
Калі-ж абнову сшыць захочаш —  
Чаргу займай звычайна ўночы.  
Заказ-жа зробяць цераз год».

### НІ КЛЮБАЎ, НІ ПРАЦЫ

У другім нумары «Комуніста Беларусі» за люты месяц, у артыкуле «Выхоўваць моладзь у духу камуністычнай ідэйнасьці», гаворыцца:

«Трэба проста сказаць, што яшчэ далёка ня ўсюды культурна-выхаваўчая работа сярод моладзі арганізавана належным чынам. Напрыклад, аб якой культурна-выхаваўчай рабоце сярод маладых будаўнікоў гораду Віцебску можа йсьці гутарка, калі іх клюб па Савецкай вуліцы мае надзвычай няпрывабны выгляд. У памешканьні холадна, сыра. Амаль ніякіх мерапрыемстваў, апрача танцаў і кіно, тут не праводзіцца. Кіраўнікі трэста, партыйнай і камсамольскай арганізацыі замест таго, каб паклапаціцца аб арганізацыі клюбнай работы, палічылі за лепшае закрыць клюб.»

Ня лепшае і ў Багушэўскім раёне. «Комуніст Беларусі» прадаўжае:

«Як адзначылі дэлегаты раённай камсамольскай канфэрэнцыі у раёне вельмі дрэнна пастаўлена культурна-выхаваўчая работа сярод моладзі. Многія калгасныя клюбы пустуюць, моладзь туды ня йдзе, бо там сумна, нядікава. Некаторыя -ж клюбы па віне старшынь калгасаў і пры патураньні камсамольскіх арганізацыяў ператвораны ў склады. Так, напрыклад ў калгасе імя Варашылава. Тут калгасны клюб засыпаны збожжам і ільносемем. Моладзі няма дзе праводзіць вольны час, ніякіх мерапрыемстваў для яе не арганізуецца. Калектыў мастацкай самадзейнасьці, які існаваў калісьці ў калгасе, распаўся... У Васілішкаўскім раёне Горадзенскай вобласьці некаторыя сакратары калгасных партарганізацый навет ня ведаюць, хто-ж зьяўляецца сакратаром камсамольскай арганізацыі ў іх у калгасе.»

**Д. У.**

# Упадак жывёлагадоўлі ў калгасах Беларусі

Камуністычная прапаганда цьвердзіць, што 1956 год на Беларусі ўвойдзе ў гісторыю, як год вялізарнага і ўсебаковага ўздыму сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Каб у гэтым цьверджаньні была хоць кропля праўды, мы былі-б задаволены, што нашыя суродзічы менш будуць галадаваць. Нажаль, цьверджаньні бальшавіцкай прапаганды — бессаромная хлусьня. Спашлемся на факты, якія былі обвешчаныя ў дакладах савецкімі кіраўнікамі.

Так на нарадзе передавікоў сельскай гаспадаркі 7-га сьнежня 1956 году старшыня Савету Міністраў БССР Аўхімовіч далажыў: вытворчасьць мяса ў рэспубліцы павялічылася на два працэнты за 1956 год, а малака — на 26 працэнтаў.

Пасьля выступленьня Аўхімовіча прайшло тры месяцы. На 4-ай Сэсіі Вярхоўнага Савету БССР намесьнік старшыні Савету Міністраў БССР Малінін выступаў з дакладам «Аб дзяржаўным пляне разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР на 1957 год». Даклад Малініна быў апублікаваны 13-га сакавіка гэтага году. Тут і выявіліся вялізарныя супярэчнасьці аб уздыме жывёлагадоўлі. Малінін паведаміў дэпутатаў, што «фактычны прырост вытворчасьці мяса за 1956 год быў толькі адзін працэнт, а малака — 7 працэнтаў. Вось дык уздым вытворчасьці прадуктаў жывёлагадоўлі!

Такім чынам сам галава беларускага савецкага ўраду Аўхімовіч не адважыўся сказаць праўды і падаў хвальшывыя весткі, каб некалькі падхварбаваць «гістарычныя» перамогі ў справе павялічэньня прадукцыі мяса і малака.

Згодна пляну на 1957 год вытворчасьць мяса павінна павялічыцца на 9 працэнтаў, а малака — на 39 працэнтаў. Аднак першыя месяцы гаспадарчага году сьветчаць, што пагалоўе сьвіней і надалей падае. Калі за 1956 год сьвіней зьменшылася на 115 тысяч галоў, то толькі за два месяцы новага году калгасы збылі 200 тысяч сьвіней, а дзяржаве здалі ўсяго 47,9 тысяч парасят.

Моцна зьніжаецца і пагалоўе буйнай рагатай жывёлы. Як падае «Советская Белоруссия» за 16-га студзеня гэтага году, пасьля ўліку жывёлы паводля становішча на першае кастрычніка, у Менскай вобласьці ў калгасах зьменшылася кароў на 8 тысяч 300 галоў, у Гомельскай — на 6 тысяч 400 галоў.

У «Советской Белоруссии» за 12 сьнежаня 1956 году зьмешчаны зварот перадавікоў сельскай гаспадаркі БССР да калгасаў, саўгасаў і МТС. У гэтым звароце запісана: «Сур'ёзныя посьпехі — ёсьць вынік мудрага кіраўніцтва нашай роднай камуністычнай партыі, яе няспынных клопатаў аб разьвіцьці земляробства і жывёлагадоўлі». Сапраўды, гэтыя «няспынныя клопаты» давялі сельскую гаспадарку да поўнага развалу, да жабрацкага стану паняволенага сялянства.

У Менску 26-га сакавіка гэтага году пачаўся зьезд спэцыялістых сельскай гаспадаркі Беларусі. На гэты зьезд Масква паслала добра знаных спэцыялістых, каб яны дапамаглі «мудраму партыйнаму кіраўніцтву» Беларусі прыпыніць развал калгаснай гаспадаркі. Аднак вельмі сумлеўна, каб пасланцы Масквы зь беларускімі спэцыялістымі знайшлі сяродкі ажывіць анэмічны калгасна-саўгасны арганізм. Гэтых сяродкаў марна шукае камуністычная партыя ўжо амаль трыццаць гадоў. Вылячыцца сельская гаспадарка сама сабою, калі сапраўдныя гаспадары зямлі вызваляцца ад камуністычнага прыгону.

**С. Сімановіч**

# Беларускія «Сочы» і нафта

Падчас дасьледваньня падземных грунтаў у маляўнічай мясцовасьці Ельску (каля Мозыру) была знойдзена вада зь вялікім працэнтам сераводароду. Яна на толькі моцна фантануе, што праз бураву ю скважыну дыямэтрам у 12 мілімэтраў вады выліваецца 50-70 кубамэтраў. Ціск вадзянога струменя дасягае на вышыні паўтара мэтра ад паверхні зямлі 65 атмасфэраў. Пры гэтым з вады выдзяляецца вялікая колькасьць сераводароду й свабодных газаў — азоту й мэтону. Гідрагеалёгі лічаць, што такі моцны фантан сьветчыць аб багатых залежах серавадароднай вады на Палесьсі. Да апошняга часу на тэрыторыі Беларусі была вядомая вада з малым працэнтам сераводароду й зьвязаная з чацьвярцічнымі адкладамі. Яна мела ня вельмі вялікае практычнае значаньне. Знойдзеная цяпер каля Ельску серавадародная вада гэнэтычна зьвязаная з палеазойнымі адкладамі й мае вартасьць лячыльную. Па складу й працэнтнасьці сераводароду знойдзеная вада Палесься блізкая па сваёй вартасьці лячыльным водам Сочы-Мацестынскаму курорту. Да таго даходзіць маляўнічая прырода мясцовасьці з сваімі шматлікімі рэчкамі, сасновымі барамі й дубровамі. Гэта ўсё дае добрыя падставы для пабудаваньня вялікага курорту-гарадка.

Таксама на Палесьсі знойдзена фантануючая нафта. Яна знаходзіцца на глыбіні 2.5 кілёмэтраў і сваёй вартасьцяй ня ўступае башкірскай нафце.

---

**Зінаіда Бандарына**

4)

# Ой, рана на Йвана

**(Старонкі маленства Янкі Купалы)**

☆

Птушынымі галасамі напоўніўся сад. Вясна ўваходзіла ў поўную сілу. Паволі цягнуўся час у хаце Луцэвічаў. Ня можа варухнуцца Маня: нязначнае намаганьне — і зноў паліць яе вагнём. Перад вачыма — чырвоная печка. Трашчаць дровы: бя-ж-ж-ы-ы, бя-ж-ж-ы-ы! То правальваецца Маня глыбока пад зямлю, то ўздымаецца пад самыя воблакі й плыве зь імі да зорак, а сьледам — агонь. Ледзь разьніме яна павекі — бачыць Янку. Бярэ ён лыжачкай малако з кубка, падносіць ёй да роту.

Цэлыя тры тыдні змагалася Маня із сьмерцяй. Навет уначы не адыходзіў ад яе Янка. Выхадзіў сястру.

— Не падобны ён у вас на хлопчыка, зусім як дзяўчынка, — ня раз гаварыла Бянігдзе суседка, — ціхі стаў, сарамлівы, да кажнага ласкавы...

— Уся мая радасьць, усё маё жыцьцё ў ім!

Стала Маня папраўляцца. Павесялела ўся сям'я. Гаспадыняй маёнтку засталася пані, муж яе назаўсёды выехаў за мяжу. Пайшоў Дамінік у панскі двор. Прынёс ён пані плату за арэнду, гасьцінцы, нізка пакланіўся:

— Калі-б ваша панская ласка... Перанёс-бы я тую злашчасную печку ў другое месца, далей ад хаты. Што ні кажы, абое мы з жонкай на рабоце, а дома застаюцца адны малыя.

— То пераносься із свамі ў другое месца, я вас ня трымаю. Пачвараў я не цярплю, ня ўздумай мне на вочы пускаць гэтае дзяўчо. Напэўна пачварай стала?

Тым часам у сваёй хаце Янка нанова вучыў сястру хадзіць:

— Трымайся, Манечка, за мяне! Вось так, яшчэ мацней трымайся... Цяпер яшчэ адзін крок...

Ён адчыніў вакно. Разам зь вясновым паветрам уварвалася песьня. Гэта, працуючы ў полі, сьпявалі дзяўчаты:

Ой, бяроза, ты, бяроза,  
Чаму ты бела — не зялёна?  
Як-жа мне зялёнай быць,  
Як-жа мне зялёнай быць —

Хто ідзе — не абміме,  
Хто ідзе — не абміне,  
Пада мной агонь кладзе!

Ўсе мае карэньні паляць,  
Мае лісьцікі ўсе смаляць.  
Мае карэньні папалілі,  
Мае лісьцікі пасмалілі.

### НА НОВЫМ МЕСЦЫ

На зіму Луцэвічы пераехалі ў маёнтак Сеньніца. Янкавы бацькі засталіся тут на службе.

Займалася зара над лесам. Ля шырокага ганку панскага палацу чуваць быў сьмех. Заліваліся бомы, фыркалі застаяўшыся коні. Гэта пасьля балю выяжджалі дадому госьці. Праданішні змрок яшчэ ахутваў вялізны скацінны двор, цагляныя кароўнікі, а сіні досьвітак ужо бруіўся ў адталыя вокны доўгага дашчанага бараку, які разьмяшчаўся за панскай сядзібай. У хаце то ўспыхваў, то затухаў, дагараючы сьвяцільнік.

— Мамачка, родная, дайце два рублі, хачу выпісаць газэту. Я ўсё буду рабіць, што скажаце, толькі дайце... Вельмі прашу, мамачка!.. — шэптам прасіў Янка маці.

Бянігда схіліла галаву. Яна зусім выбілася з сіл. Ня жарты дагледзець панскіх кароў у час ацёлу! У суткі ня больш за тры гадзіны ўдаецца паспаць, ды й то не на ложку, а дзе-небудзь у кутку за сталом. Ціха становіцца ў хаце. Янка зьбярэ малодшых дзяцей, пойдзе зь імі на двор або ў сенцы, каб маці не перашкаджалі. А вось сяньня сам будзіць. Вельмі ўжо хочацца яму выпісаць газэту... Абняла яна сына, прытуліла да сябе:

— Рада-б, Ясік, даць. Ды дзе іх возьмеш?! Два рублі для нас не малыя грошы... Сам, сынок, бачыш, няроўна Бог дзеліць: у панскіх палацах балі й гулянкі, а мы дзень і ноч працуем на пана й кавалку жытняга хлеба рады. Не надрывай маё сэрца, не прасі, Ясік...

Пакорліва адыйшоў Янка. У вачох сьлёзы.

Застракатаў цвыркун на печы. Адганяючы сон, маці ўстала, пайшла ўвіхацца па гаспадарцы. Невялікія ейныя рукі працавалі бяз стомы. Дома пасярод чыста прыбранай хаты стаяў самаробны ткацкі станок. Бянігда сама прала й ткала, каб адзець дзяцей. А потым цэлымі днямі й часта начамі працавала яна на панскім двары.

Ведалі яе на рабоце як надзвычай працавітую й сумленную жанчыну. І навет прыдзірлівы аканом лічыў, што толькі ёй можна даверыць самыя цяжкія й адказныя гаспадарчыя справы. Мела Бянігда асаблівую здольнасьць: сама любіла паказаць менш дасьветчаным парабчанкам, як даіць карову, стрыгчы авечак, як прыняць маленькае цяля. Да хатняй работы яна змалку прывучала й сваіх дачок. Любая работа гарэла ў ейных руках. Усюды яна наводзіла чысьціню да бляску і, вядома, траціла на гэта нямала сіл.

Янка любіў сваю маці й ніколі-б не парушыў яе спакою, каб ня гэтыя кніжкі.

Паправіў ён белую саматканую кашулю, высунуў спад ложка запаветны куфэрак, падняў цяжкае вечка. Вось і любімыя кнігі! Ня так іх шмат. Але й яны ня лёгка дасталіся хлопчыку. Маўклівы й ціхі, ён мог дзеля кнігі пайсьці за дзесяткі вёрст. Рады быў дагадзіць пісьменнаму чалавеку, толькі-б атрымаць ад яго як узнагароду кнігу. У куфэрку зыбрана ўсё яго багацьце. Кажная кніга як люстэрка — нідзе ні плямінкі, ні парушынкі. Ляжыць на дне новенькі каляндар, той самы, па якім Янка нядаўна вучыўся чытаць. А побач з ім — буквар, які не малую службу ўслужыў усёй сям'і Луцэвічаў: па ім зімой Янка навучаў граматы й сясьцёр і маці.

— Быць, Ясік, табе «дарэктарам», — марыла тады, усьміхаючыся, Бянігда.

«Дарэктарамі» ў той час называлі «вандроўных» настаўнікаў. У беларускіх сёлах пры цары школ было мала, настаўнікі пераходзілі з хаты ў хату й за невялікую плату вучылі граматы вясковых хлопчыкаў. А дзяўчынак вучыць зусім было ня прынята.

Здаўна было заведзена на гаспадарцы, што сын становіцца памочнікам бацькі. І, натуральна, маючы сына, Дамінік у першую чаргу патрабаваў ад яго дапамогі ў гаспадарцы, даручаў пасьвіць жывёлу. Няпрыкметна ў рабоце праляцелі вясна й лета, настала восень. Холадна пастушку ў восенскія ве-

# Сьвяткаваньні Сакавіковых урачыстасьцяў

### АКТ 25 САКАВІКА Ў КАНГРЭСЕ ЗША

21-га сакавіка сёлета Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦ Васіль, Сакратар Рады БНР і Старшыня Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. К. Мерляк прыбылі ў Вашынгтон.

Яны былі вельмі ветліва прынятыя шматлікімі нашымі прыяцелямі амэрыканскімі кангрэсмэнамі на чале з кангрэсмэнам Фрэнсіс Э. Дорн зь Нью Ёрку.

А гадз. 11.30 кангрэсмэн Дорн прадставіў беларускіх прадстаўнікоў пастару Кангрэсу, які ўжо ведаў, зь якой мэтай яны прыбылі ў Вашынгтон. Пастар Кангрэсу Бэрнард Брэскэмп прадставіў Уладыку Васіля ўрадаўцам Кангрэсу. Тымчасам заля Кангрэсу пачала запаўняцца амэрыканскімі законадаўцамі.

Роўна а 12-ай гадзіне ўзыйшоў на трыбуну сьпікэр Кангрэсу Сэм Райбэрн, які й адкрыў паседжаньне Кангрэсу. Ён прывітаў Уладыку Васіля і абвесьціў прысутным, што зараз будзе прачытаная малітва з нагоды 39-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. І Уладыка Васіль урачыстым тонам прачытаў у ангельскай мове малітву, якую падаем ніжэй у беларускім перакладзе:

**Прадвечны Божа, Ойча наш! Ты ўвесь сьвет і нас стварыў, і адвечныя законы ўстанавіў, а род людзкі так палюбіў, што Сына Свайго Адзінароднага, Спасіцеля нашага, нам паслаў, каб мы, ідучы шляхам Яго, будавалі Тваё Царства Божае на зямлі.**

**Гэтае Тваё Царства на зямлі можа быць збудаванае толькі ў духу Твае Праўды, Любові й Свабоды. Абдары нас Ласкаю Тваёю, прасьвятлі наш розум Духам Тваім Сьвятым, каб Твая Праўда, Любоў і Свабода жылі й красавалі між намі.**

**Ойча наш Нябесны! Ты прасьвятліў розум слаўных будаўнікоў Краіны гэтае, багаславіў іх і памог ім улажыць законы для агульнага дабрабыту, супакою й задаваленьня. Узмацні сэрцы іх Ласкаю Тваёю, каб яны сталіся Міласэрнымі Самаранамі для ўсіх абяздоленых, бяздомных, дапамогі патрабуючых. Зрабі любы Ойча, надзеяй усіх церпячых і паняволеных, сьветачам Дабра, Праўды й Свабоды па ўсім сьвеце: для ўсіх расаў, народаў і кажнае адзінкі, каб мы ўсе, як браты й сёстры, дзеці Твае, славілі Цябе ў вольных краінах сваіх.**

**Гэтую Малітву мы пасылаем Табе, Божа наш, у гадавіну Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, свабода якое была патаптаная грубою бязбожнаю сілаю, міліёны мучанікаў якое перад Прастолам Тваім умаляюць Цябе: учыні Суд Твой Праведны, памажы нам вярнуць нашую Свабоду, за якую Беларускі Народ усьцяж непахісна змагаецца з сваімі панявольнікамі.**

**Мы горача просім Цябе, Міласэрны Божа: скараці дні нязгоды між народамі, спыні барацьбу, адхілі вайну, прысьпяшы канец усякага паняволеньня. Хай Твая воля Свабоды, Любові, Праўды й Справядлівасьці запануе ўсюды на сьвеце. Хай усе людзі й народы, а зь імі й Беларускі Народ, жывуць і дзеюць над сьцягам Духа свабоды Твае, і цьвёрда вераць, што Воля Твая затрыумфуе, што Царства Тваё прыйдзе й запануе як на Небе, так і на зямлі.**

**З пакораю ў сэрцах нашых мы шчыра просім Цябе, Божа й Ойча наш, прымі Малітву нашую, багаславі гэты Кангрэс, Злучаныя Штаты Амэрыкі й нашую Радзіму-Беларусь. Хай цудоўнае Імя Тваё, Божа й Спасе наш, зьзяе ў сэрцах нашых, багаслаўляецца й праслаўляецца сяньня, заўсёды й на векі вечныя. Амінь.**

Пасьля гэтага сьпікэр Кангрэсу сардэчна падзякаваў Уладыку за ягоную малітву; шматлікія кангрэсмэны, акружыўшы Ўладыку Васіля й К. Мерляка, таксама дзякавалі за той рэлігійны ўздым, які яны толькі што перажылі. Усе яны горача віталі нашых прадстаўнікоў ды шчыра жадалі ім хуткага вызваленьня Беларусі, а таксама задавалі шматлікія пытаньні што да нашай гісторыі, змаганьня за вызваленьне й беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Амэрыцы.

Пасьля гэтага кангрэсмэн Дорн запрасіў беларускіх прадстаўнікоў у кангрэсавы рэстаран. Тут за сталом ён больш гадзіны гаварыў зь імі аб розных беларуск х праблемах ды заяв'ў, што ён заўсёды гатовы дапамагчы нам у розных цяжкасьцях, стараньнях і працы. Нагагул у часе абеду шматлікія кангрэсмэны задавалі пытаньні адносна Беларусі ды выказвалі пажаданьні. Некаторыя зь іх заяўлялі, што яны яшчэ слаба знаёмыя зь беларускімі праблемамі, аднак шчыра абяцалі сваю гатоўнасьць дапамагчы й падтрымаць нашую справу.

Будучы ў Вашынгтоне, Уладыка Васіль і К. Мерляк злажылі візыты наступным кангрэсмэнам: Данель Дж. Флюд, М. А. Фэйгэн, Т. М. Махровіч, А. Э. Сантанджэло, Г. Дж. Адоніцё і Г. Зэленко.



Пры ўваходзе ў Капітоль (заля паседжаньняў Кангрэсу) Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль, кангрэсмэн Ф. Э. Дорн зь Нью Ёрку, і Старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку сп. К. Мерляк.

### БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў МЭРА ГОРАДУ НЬЮ ЁРК

21-га сакавіка мэр гораду Нью Ёрк, Робэрт Ф. Вагнэр, прыняў дэлегацыю беларускіх арганізацыяў у Нью Ёрку на чале із старшынём Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. М. Тулейкам.

Мэр гораду Нью Ёрк Вагнэр прыняў беларускую дэлегацыю ў слаўным Сіты Гол у прысутнасьці карэспандэнтаў і фотарэпартэраў ды падпісаў Праклямацыю, якой абвесьціў дзень 25-га сакавіка для Нью Ёрку Днём Незалежнасьці Беларусі, і ўручыў яе старшыні БАЗА. У знак удзячнасьці беларуская дэлегацыя ўручыла мэру Вагнэру альбом кружэлак беларускіх песьняў, аздоблены прыгожым народным узорам.

Сакратар Галоўнае Ўправы БАЗА Юрка Станкевіч выразіў удзячнасьць Беларусаў за ўвагу, якую мэр Вагнэр удзяляе ўжо другі год беларускай справе, які ў сваю чаргу падзякваў за альбом ды сказаў, што ён ганарыцца тым, што мае грамадзян беларускага паходжаньня ў сваім горадзе, якія ўкладаюць свой удзел у яго разбудову. (Праклямацыю гл. у іншым месцы).



Мэр гораду Нью Ёрк Робэрт Ф. Вагнэр уручае Праклямацыю Старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА ў прысутнасьці беларускай дэлегацыі Нью Ёрку

### РАДЫЯПЕРАДАЧА

У сыботу 23-га сакавіка а гадз. 1-ай разышлася на хвалях этэру беларуская радыяперадача прысьвечаная 39-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Паўгадзінная передача, зладжаная Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем, была падрыхтаваная ды кіраваная сп. Б. Данілюком. Яна пачалася песьняй «Люблю наш край старонку гэту...» Пасьля гэтага сьпікэр прадставіў старшыню БАЗА аддзелу Нью Ёрк, сп. К. Мерляка, які сказаў прынагодную прамову.

Прамоўца казаў: «Пасьлязаўтра будзе якраз трыццаць дзевяць год, як Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выконваючы пастановы Усебеларускага Кангрэсу, што адбыўся ў нашай сталіцы Менску ў сьнежні 1917 г., Трэйцяй Устаўной Граматай абвесьціла Беларусь Незалежнай Народнай Рэспублікай.

Ад тады дзень 25-га Сакавіка стаўся нашым вялікім нацыянальным сьвятам. Яго сьвяткуе кажны Беларус — у вольным сьвеце адкрыта, дэманстрацыйна, на паняволенай Бацькаўшчыне — сукрыта, у душы. І асабліва нам Беларусам ды Амэрыканцам беларускага паходжаньня, жывучы на вольнай зямлі Вашынгтона, прыемна ўспамінаць гэты вялікі дзень у гісторыі нашага народу, калі ён заявіў усяму сьвету сваю волю быць вольным і незалежным.

Беларускі народ на працягу свае гісторыі перажываў і часы вялікага дзяржаўнага ды культурнага ўздыму, і часы пераможных збройных змаганьняў, а таксама і часы заняпаду. Дзеля свайго няспрыяльнага геапалітычнага палажэньня Беларусь у канцы васьмінаццатага стагодзьдзя сталася ахвярай ненажэрнага маскоўскага імпэрыялізму.

Гэнае «мірнае воссоединение парадкам гістарычнага працэсу» — як бессаромна стараюцца прадставіць яго ўсім расейскія «адзінанедзял'мцы» на эміграцыі, а маскоўскія камуністыя, на бацькаўшчыне, каштавала нашаму народу каля сто пяцьдзесят год жорсткай няволі...»

Адцеміўшы ўсю агіднасьць расейска-бальшавіцкае палітыкі ў дачыненьні да Беларусі й фікцыю сувэрэннасьці БССР, сп. Мерляк гаварыў далей:

«На працягу ўсіх год выгнаньня Рада й Урад БНР усьцяж непахісна вядуць вызвольнае змаганьне. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі — праўны й верны спадкаемец тае слаўнае Рады й Ураду БНР, што ад 25-га Сакавіка сталіся сымбалем ідэі незалежнасьці Беларусі, традыцыяй беларускае дзяржаўнасьці і кіраўніком нацыянальных сілаў у змаганьні за аднаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дарма, што маскоўскія стаўленьнікі ў Менску ды крамлёўскія панявольнікі ўзьнялі гвалт на бачынах розных сваіх «праўдаў» супраць Рады БНР, стараючыся апаганіць яе перад нашым народам — народ гэты ведае, што гэта хлусьня, і ўся іншая камуністычная прапаганда. Ён ведае, што ўжо набліжаецца дзень вызваленьня, што можа ён надыйсьці вельмі хутка й неспадзявана. Хай-жа ведае й сьвет, што беларускі народ нязьнішчальны, што ідэя вызваленьня нязгаслая, што адбудова нашае дзяржавы нямінучая. Бо мы, Беларусы, гэтага хочам, бо мы за гэта змагаемся, бо мы ў гэта верым. Беларусь будзе вольнай і незалежнай дзяржавай. Жыве Беларусь!»

«Пагоня» ў выкананьні Лювэнскага студэнцкага хору, пасьля заканчэньня прамовы Старшыні, стварыла найпрыгажэйшы мамэнт праграмы.

Паміж падаваньнем вестак аб паездцы беларускіх прадстаўнікоў у Вашынгтон, аб праклямаваньні 25-га сакавіка Бела-

**(Працяг на 6-ай бачыне)**

---

Прайшоў тыдзень, а можа і больш.

Цяпер ужо Валодзя ня толькі прыносіў у будан Янку чытаць свае любімыя кнігі, але й вырашыў сам яго рыхтаваць для паступленьня ў рэальнае вучылішча.

Праўда, таямнічасьць іх сустрэч крыху парушылася. Каб стрымаць сваё слова, Валодзя ўва ўсім даверыўся бацьку. І так пратрубіў яму вушы аб Янкавых здольнасьцях, што дабіўся й бацькавай прыхільнасьці да новага сябры.

Толькі і ў добрых справах бывае нямала перашкод. Такой перашкодай для Валодзі былі Янкавы бацькі. Яны то прымушалі сына няньчыць малодшых дзяцей, то давалі яму іншую хатнюю работу. Толькі па нядзелях бывае ў Янкі вольны час. Але гэтага мала. Тады Валодзя надзеў сваю студэнцкую форму з бліскучымі гузікамі і неяк пад вечар прыйшоў у дом да Луцэвічаў.

Яму вельмі спадабалася чыстая ўтульная хатка і, галоўнае, што і бацька і маці Янкі размаўлялі зь ім як з дарослым, усімі паважаным чалавекам. Яму навет пачало самому здавацца, што ён быццам стаў вышэйшы ростам, разумнейшы.

Янкавы бацькі ня ведалі, куды яго пасадзіць і як прывітаць.

Бянігда накрыла стол чыстым абрусам, паставіла перад Валодзем талерку зь мёдам, сьметанковы сыр, прынесла шклянкі й збанок малака.

— Хлеб на стале, рукі свае. Чым хата багата, тым і рада. Гэтак па звычаю, каб дарагі госьць не забыў да нас дарогу, — з ласкавай усьмешкай гаварыла яна.

Усё здавалася Валодзю надзвычай смашным, быццам ніколі яшчэ не каштаваў ён такіх прысмакаў ні дома, ні ў гасьцях. У гэты дзень ён дабіўся згоды ад бацькі, што на будучае лета ўсе канікулы правядзе ў Луцэвічаў.

Заняткі зь Янкам пайшлі больш пасьпяхова.

*

Неўзабаве дачнікі пачалі разьяжджацца. Як у ваду апушчаны, праводзіў Янка вазок, на якім ехаў у горад Валодзя із сваім бацькам.

На нейкі момант яму здалося, што разам зь імі ў воблаку пылу патанулі ўсе яго надзеі, усе радасьці. Пуста, самотна. Ён ня мог стрымаць свайго гора, прыхіліўся да старой бярозы й горка заплакаў.

Чыесьці мякія, ласкавыя рукі абхапілі яго за плечы, павярнулі тварам да сябе.

— Маня?! Так, гэта была яна. Ні слова не гаварыла, ня суцяшала, а толькі запыталася:

— Ясік! Пойдзем у грыбы? На цэлы дзень у нядзелю пойдзем...

Чакае не дачакаецца Янка будучага лета, новай сустрэчы з Валодзем. Сумна цягнуцца непагодлівыя асеньнія дні. І здаецца — няма ім канца, як няма канца нягодам, якія зноў, быццам хмары, згрудзіліся над Луцэвічамі.

*

Вялікі, багаты быў маёнтак Сеньніца, дзе яны служылі. І ўсё тут — лясы, палі, сядзіба, падобны на палац дом — належала аднаму пану Турчынскаму.

Раненька, яшчэ на досьвітку, ішла на панскі двор Бянігда, старалася кажнаму дагадзіць. Інакшы характар быў у Дамініка — ня мог ён прымірыцца із сваёй службай, хацеў быць незалежным ад паноў.

Зьбіраў ён грошы, штоараблялі яны з жонкай, клаў іх у банк і аб адным марыў — купіць зямлі. Непакоіла яго, што марна йдзе жыцьцё, нічога не застанецца дзецям. Упарта паўтараў сам сабе і людзям любімую прымаўку: ня маю цяпер, дык буду мець у чацьвер.

І здарылася так, што банк прагарэў: яго гаспадар уклаў усе грошы, якія яму давалі на захаваньне людзі, у будаўніцтва лесапільнага заводу. Завод быў пабудаваны, на ім працавала каля пяцісот рабочых. Хутка яны забаставалі й неўзабаве спалілі завод. Банкір ад сваіх крэдытораў зьбег за мяжу. Як даведаўся пра гэта Дамінік, у той-жа дзень папрасіў, каб разьлічылі, адпусьцілі з маёнтку. Вырашыў пераехаць у горад. Чаму? Мабыць, апанавала яго злосьць, што запраўды ўсе намаганьні былі дарэмнымі. «Сам голы, як бізун, і дзеці растуць. Калі я для іх не пастараюся, ня куплю зямлі, дык чакае іх тая-ж пакута, якую я сам на сваёй скуры спазнаў», — думаў ён. З галавы ня выходзіла думка, што Янка паступіць у рэальнае вучылішча.

У той вечар Янкава маці зьбівала масла й дачок навучала. Усё трэба ўмець. Сьмятана ў драўлянай бойцы ўжо зьбівалася на камячкі, калі ў хату зайшоў гаспадар. Маці зірнула яму ў твар і прачытала аб усім, што здарылася.

— Зноў лахі пад пахі! Ды пабойся ты Бога! — пляснула рукамі Бянігда. — на месцы й камень абрастае. А ў нас усё жыцьцё на калёсах: Вязынка, Юзэфава, Косіна, Сеньніца — во колькі месцаў зьмянілі! Куды-ж далей, навошта?

— Такая ўжо доля наша, безьзямельнікаў... зь месца на месца вандруй. Служачы ў пана ўлезеш гэтак у нерат, што ні ўзад ні ўперад. Трэба сваёй зямлі дабівацца, — адвярнуўшыся да вакна, панура адказаў бацька.

### У ГОРАДЗЕ

Ня сьпіцца Янку. Толькі задрэмле ён і тут-жа ўсхопіцца, азірнецца навокал. Цікае гадзіньнік. Сьпяць каля маці Маня й Аньця. Раськідаўся побач Казя. Закашляецца праз сон бацька, перавернецца на другі бок. І зноў ціха. Зачынены акяніцы. Ні зорак ня ўбачыш, ні неба. «І навошта толькі іх зачыняюць? Можа, ужо раніца?!»

Навобмацак Янка знаходзіць сваё адзеньне, пачынае апранацца. Устаць усё-ж-такі нельга, каго-небудзь, ды зачэпіш, цесна. «Так і спазьніцца можна», — хвалюецца ён.

— Сьпі, Ясік, яшчэ ноч, дзеткі, — далятае да яго голас маці.

За сьцяною нешта туркоча. Занепакоіўся Янка, прыціснуўся да сьцяны. Што гэта? Прыслухаўся й ледзь уголас не расьсьмяяўся: гэта-ж насьценны гадзіньнік. Вось пачынае біць... Замёр хлопчык, стаў лічыць удары: б-о-о-м-м, б-о-о-м-м, б-о-о-о-м-м... Тры. Заплюшчыў вочы, успомніў вёску. Устане мама, запаліць лучыну. Успыхне агеньчык, асьвятляючы знаёмую хату, белую шырокую печ ля дзьвярэй, палок з бруском, жорны, лавы й стол на покуце... Уздыхнула маці, а ўставаць не ўстае. Гэта горад, тут усё пановаму, паіншаму.

Раніца выдалася шэрая. Стаяла позьняя восень з туманамі, слота. На ўскраіне Менску, Ляхаўцы, дзе ў доміку Волкавых спыніліся Луцэвічы, раніцою смуродным туманам курылася гарадзкая звалка ў ярах.

Хмары зацягнулі ўсё неба, і яно, быццам з густога сіта, сее й сее дажджом. Спусьціўшы хвост, лезе ў падваротню мокры сабака. З дахаў і бляшаных труб проста на тратуар ліюцца каламутна-іржавыя струмені вады. З грукатам адчыняюцца аканіцы. Янка пры гэтым палахліва паглядае на бацьку, які йдзе зь ім побач. Гараджане праводзяць іх дапытлівымі позіркамі.

# Сьвяткаваньні Сакавіковых урачыстасьцяў

(Працяг зь 5-ай бачыны)

рускім Днём Незалежнасьці ў штатах Нью Ёрк і Нью Джэрсі, аб прыняцьці беларускае дэлегацыі мэрам гораду Нью Ёрк Вагнэрам ды аб нядзельнай праграме сьвяткаваньня Незалежнасьці Беларусі, былі наданыя: рэлігійны гымн «Магутны Божа», «Песьня Волі», «Падняты родны сьцяг Дзяржавы» ды на заканчэньне Беларускі Нацыянальны Гімн.

### БАГАСЛУЖБА ЗА БЕЛАРУСЬ

А 10-й гадзіне ў нядзелю 24-га сакавіка Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпікап Васіль у саслужэньні айцоў Хведара, Сьцяпана й Рамана распачалі ўрачыстую сьв. Літургію.

Перад малебенам за Беларускі Народ і Раду БНР Уладыка Васіль меў вельмі прыгожае казаньне. Між іншым Уладыка зазначыў, што сяньня мы больш як ніколі стаімо блізка вызваленьня нашай Бацькаўшчыны й блізка таго дня, калі Беларускі Народ будзе сьвяткаваць Дзень Незалежнасьці на сваёй роднай зямлі ды будзе славіць Усявышняга за Ягоную апеку над Беларусяй.

Багаслужба прайшла вельмі ўрачыста; малітва за наш народ, гімн «Магутны Божа» й «Многія Лета» запраўды напоўнілі сэрцы вялікай духовай радасьцяй.

У гэту нядзелю выпала прыгожая сонечная пагода — рэдкае зьявішча ў гэтым часе ў Нью Ёрку — што таксама спрычынілася да многалікай прысутнасьці: царква Сьв. Тройцы была перапоўненая й людзі мусілі стаяць вакол Царквы й на вуліцы.

### АКАДЭМІЯ

Урачыстая Акадэмія адбылася ў Білтмор гатэлі ў Нью Ёрку дня 24-га сакавіка.

Дзякуючы стараннай і належнай падрыхтоўцы, якая была праведзена пад кіраўніцтвам старшыні Акруговай Управы БАЗА сп. К. Мерляка, ды пры супрацоўніцтве аддзелаў БАЗА Саўт Рывэр, Нью Брансвік і Стамфорд, вялікая заля гатэлю была перапоўненая прысутнымі.

А гадз. 3.15 Акадэмія распачалася амэрыканскім гімнам у выкананьні Э. Маркоўскай солё і пры фартапіяне праф. Э. Зубковіч.

Акадэмію адкрыў у ангельскай мове Старшыня сп. К. Мерляк.

«Мы йзноў зышліся разам, — гаварыў прамоўца, — каб ушанаваць 39 ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якое адбылося 25-га сакавіка 1918 году ў Менску, сталіцы Беларусі».

Падчыркнуўшы, што бальшавіцкі імпэрыялізм — гэта той-жа традыцыйны расейскі імпэрыялізм, ня гледзячы на зьменны колер, сп. К. Мерляк далей гаварыў: «Ад 1920 году да сяньня Расейцы паняволілі найменш дваццаць адзін народ. Гэтыя народы былі незалежнымі ў мінулым ды жылі мірна, рэспэктуючы людзкія правы й міжнародныя ўмовы. Ад таго часу Расейцы поўнасьцяй зьнішчылі найменш сем народаў ці этнічных групаў, колькасьцяй у некалькі мільёнаў жыхароў. Гэта паказвае як камуністычны імпэрыялізм зьнішчае ўсё, што стаіць на ягоным шляху да сусьветнага панаваньня.

«Небясьпека гэтага таталітарнага імпэрыялізму існавала ў мінулым, існуе цяпер і будзе існаваць, пакуль вольны дэмакратычны сьвет не наважыцца аднавіць свабоду й справядлівасьць у сьвеце, якія павінны належаць аднолькава кожнаму народу, бяз розьніцы рэлігіі, расы, вялічыні».

«... Адзначаючы 39 ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, мы сьхіляем галовы перад бесьперапынным змаганьнем народу за сваю свабоду, перад ягонымі вялізарнымі цярпеньнямі й ахвярамі. Гэтыя 39 гадоў актыўнага й пасыўнага супраціву перад тыраніяй зьяўляюцца вялікім укладам у вагульную справу людзкое



Фрагмэнт залі ў часе Акадэміі ў Білтмор гатэлі

свабоды й як такія не прамінуць незаўважанымі.

Мы, Амэрыканцы беларускага паходжаньня, наважаныя падтрымоўваць беларускі вызвольны рух усякімі магчымымі шляхамі й усімі даступнымі нам сяродкамі», — сказаў у заканчэньні сп. Мерляк.

Пасьля гэтага сп. Мерляк вітаў прысутных з 25 Сакавіком у беларускай мове.

Прадстаўлены тут-жа сп. Мерлякам Старшыня Рады гораду Нью Ёрку сп. А. Старк у прыгожай прамове вітаў Беларусаў з нацыянальным сьвятам ад імя мэра гораду сп. Вагнэра, якога ён рэпрэзэнтаваў, ды ад імя Рады гораду Нью Ёрка

Сэнатар штату Нью Ёрк Джон П. Морысэй сказаў вельмі прыгожую прамову, якую зьмяшчаем у скароце на іншым месцы.

Для адпружаньня прысутных у міжчасе былі наладжаныя артыстычныя выступы. Першым нумарам былі дзьве дэклямацыі: «Ня плачце» у выкананьні Ліды Рагулі і «Ён прыйдзе» ў выкананьні Ані Стомы, абодва вершы напісаныя сп. Арсеньневай. Дэкляматаркі выступілі ў нацыянальнай вопратцы.

Наступна выступіў з прамовай Сталы Прадстаўнік Кітайскай Рэспублікі ў Задзіночаных Нацыях і сябра Рады Бясьпекі АЗН др. Тынгфу Ф. Тсянг. Прамова яго вельмі цікавая й дзеля таго зьмяшчаем яе ў скароце асобна.

Горача вітаў прысутных судзьдзя Арманд А. Ротман, прадстаўнік Амэрыканскіх Вэтэранаў Замежных Войнаў, які параўнаў змаганьне беларускага народу да змаганьня Вугорцаў, якія пазьней на 36 год перажылі тую самую трагэдыю, што й Беларусы.

Тутака з мастацкай часткі сп-ня Э. Маркоўская пры акампаньямэньце прафэсара Зубковіч выканала дзьве песьні: «Калыханку» праф. А. Карповіча й «Вясну» Гуно.

Вялікай неспадзеўкай для прысутных быў выступ Амбасадара Джэймс Гэнры Роберт Кромвэл, які спэцыяльна прыбыў з Вашынгтону. Амбасадар Кромвэл быў акрэдытаваны ў Канадзе (Отава), як амэрыканскі міністар. Ён-жа аўтар некалькіх кніжак на палітычныя й эканамічныя тэмы; да гэтага — актыўны сябра групы Амэрыканцаў, якія прапагуюць палітыку актыўнага вызваленьня паняволеных Савецкай Расеяй народаў (у прыватным жыцьці ён зьяўляецца мільянэрам).

Ён гаварыў, што яны (Citizen's Foreign Relation Committee) будуць уплываць на Амэрыканскі Кангрэс і Урад усімі магчымымі сяродкамі, каб правесьці ў жыцьцё актыўную палітыку вызваленьня. Пасьля з большага прадставіў, як гэта павінна праводзіцца на практыцы.

Гучнае прывітаньне атрымаў кангрэсмэн Ф. Э. Дорн, які якраз увайшоў у залю, бо прысутныя яго добра памяталі з выступу мінулага году.

Кангрэсмэн Дорн пачаў сваю прамову малітвай, якую чытаў з Кангрэсавага Рэкорду, той самай, што Ўладыка Васіль 21 сакавіка чытаў у Кангрэсе ЗША. З гледзішча на цікавасьць гэтае прамовы, зьмяшчаем яе на іншым месцы таксама.

З чарговым мастацкім нумарам выступіў тэнар А. Бялецкі пры акампаньямэньце праф. І. Базілеўскага, выканаўшы дзьве песьні: «Арлезіяна» Чылеа й «Тарантэля» Росіні.

Наступна выступіў з прамовай Віцэ-старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі праф. А. Адамовіч. На пачатку ён сказаў: «... буду гаварыць па-беларуску, бо мова свабоды ёсьць адзіная й усім зразумелая». Ягоны выступ быў на актуальныя палітычныя праблемы беларускага вызвольнага руху. Прамоўца падчыркнуў, што справа вызваленьня Беларусі — гэта ўжо справа сусьветная, а ня толькі самых Беларусаў; гэта вельмі добра разумеюць ворагі беларускае дзяржаўнасьці, якія пачалі супрацьдзеіць адначасна ў Маскве й на чужыне. Прамова праф. Адамовіча была перарваная шмат разоў воплескамі; трэба адзначыць, што была яна запраўды арыгінальнай і адменнай ад тых, якія чуліся раней пры такіх нагодах.

Вялікай артыстычнай атракцыяй быў выступ сп. Пятра Конюха, слаўнага баса, які пры акампаніямэньце праф. І. Базілеўскага выканаў дзьве песьні; беларускую «Малойчык» Карповіча і «О Патрыя» Вэрдзі.

Ад імя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) прысутных вітаў інж. В. Г. Глазкоў.

Сакратар Галоўнае Ўправы БАЗА сп. Юры Станкевіч прачытаў праклямацыі губэрнатара Штату Нью Ёрк, мэра гораду Нью Ёрку й губэрнатара штату Нью Джэрсі аб праклямаваньні дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі ў гэтых штатах.

Старшыня К. Мерляк паведаміў прысутных аб атрыманых пісьмовых і тэлеграфічных прывітаньнях, якія аднак не зачытваліся з прычыны недахопу часу.

З важнейшых прывітаньняў былі: ад губэрнатара штату Нью Ёрк, губэрнатара Штату Нью Джэрсі, ад сэнатараў Вільем Ф. Ноўленд, Ірвінг М. Айвес, ад кангрэсмэнаў М. А. Файгэн, К. Дж. Заблоцкі, Р. Дж. Мадэн, Джон Дж. Рунэй, В. Л. Анфусо, Дж. Лесінскі; ад арганізацыяў і ўстановаў White House Conference on people-to-peple Partnerships, Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму, Амэрыканскіх Прыяцеляў Ветнаму; ад монсыньёра Бэля Варга — Старшыні Вугорскага нацыянальнага Камітэту, Амбасадара Ліпскага, Міколы Лебедзь — Сакратара Украінскага Камітэту Вызваленьня; ад К. Панькіўскага М. Чубатага, Янкі Чарапука-Змагара — былага Міністра Замежных Спраў БНР; ад беларускіх арганізацыяў з Канады, Нямеччыны, Італіі, Радыя «Вызваленьне», Аргентыны, Бэльгіі, Аўстраліі, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Вэтэранаў, ад аддзелаў БАЗА ў Дэтроіт, Чыкаго, Нью Джэрсі, Саўт-Рывэр, Нью Брансвік, Клыўлэнд, Спрынгфільд, Пэорыя, Стамфорд, ды ад Беларусаў з Айова й Мінэполіс.

Старшыня падзякаваў усім за прысутнасьць і Акадэмія была закрыта адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля Акадэміі было наладжана прыняцьце для гасьцей зь лічным удзелам нью-ёрскага грамадзтва.

Увесь прабег Акадэміі быў зарэгістраваны на йстужку працаўнікамі Амэрыканскага Камітэту для перадаваньня праз радыё «Вызваленьне»; весткі былі таксама наданыя праз «Голас Амэрыкі» ў славянскіх і ангельскай мовах.

# Прысутныя на акадэміі госьці

Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦ Васіль.

The Most Reverend H. Francis Wilkie D. D. Auxiliary Bishop of New York

The Most Reverend Bishop K. C. Pillai of Indian Orthodox Church

His Excellency Dr. Tingfu F. Tsiang Permanent Representative of China to the United Nations

The Honorable Ambassador James Henry Robert Cromwell

The Honorable Francis E. Dorn, Congressman of New York

The Honorable John P. Morrissey, State Senator

The Honorable Abe Stark, President City Council, New York

The Honorable Armand A. Rotman

Right Reverend Ramkrishna Shahu Modak D. D. President of All India Federation of National Churches

Айцы: Данілюк, Войтэнка, Мэльнычэнко, Урбановіч.

Праф. І. Палівода — прадстаўнік Украінскай Нацыянальнай Рады.

Палкоўнік В. Рыбак — прадстаўнік Украінскага Кангрэсавага Камітэту.

Інж. В. Г. Глазкоў — сябра Цэнтральнага Камітэту Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк).

Сп. Ерэменко — Старшыня Казацкага Саюзу ў Амэрыцы.

Сп. Фоўль — карэспандэнт газэты «Нью Ёрк Таймс».

Сп. Балько — Каталіцкая Фэдэрацыя Славакаў у Амэрыцы.

Сп. Д. Тагібэрлі — прадстаўнік ад Туркестанцаў.

Сп. Л. Райхгэрцэр — Амэрыканска-Харвацкае Задзіночаньне.

Сп. Гарутунян — Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Армэніі.

Сп. Р. Марыновіч — кіраўнік украінскіх радыяперадачаў.

Сп. Ф. Дуругы — Генэральны Сакратар Дэмакратычнага Саюзу Цэнтральна-Ўсходняе Эўропы

ды шмат карэспандэнтаў і фотарэпартэраў розных газэтаў.

**К. М.**

---

І бацька, і сын — абодва ў даматканых паддзёўках, у цяжкіх ботах — крочаць проста па бруку. Хто на іх ні гляне, адразу пазнае — вясковыя...

Вуліцы гарбатыя, вузкія, двум вазам не разьмінуцца. Нягледзячы на дрэннае надвор'е і раньні час, на другім канцы гораду, каля Нямігі, ужо ішоў бойкі гандаль. Адна ля адной ляпіліся крывабокія крамкі, прапахлыя селядцамі й газай. Парожнія й непачатыя бочкі месьціліся тут-жа, ля ўваходу. У пузатых чыгунках з гарачым вугольлем гандляркі грэлі рукі, шырока растапырваючы пальцы. На розныя лады заклікалі яны пакупнікаў, бесцырымонна за рукаў цягнулі да сябе Дамініка.

— Мой тавар — чыстае золата!

Трасучы клінком барады, стары гандляр ня пытаў — чаго трэба. Вёрткі, жвавы, шныраў ён па паліцах, узьнімаючы пыл, звальваючы на прылавак хамуты, цюкі мануфактуры, чэрствыя баранкі й заседжаныя мухамі даўгія, як ледзяшы, сусолкі.

Дамінік прыцэньваўся, таргаваўся. Потым ішоў да выхаду. Як каршун налятаў на яго гандляр.

— Што-о-о?! Табе не падабаецца мой тавар? Запанеў? Каб я так жыў, і дзеткі, і ўнукі мае жылі, лепшага ня знойдзеш!

— Нічога людзкага... Дыхаць няма чым, нядобра тут, Ясю.

— Хадзем-жа, тата! — цягне Янка бацьку за руку. — Яшчэ спозьнімся.

— Куханы гарачыя з макам, цыбуляй!

— Каму рэдзькі зь мёдам, ка-а-а-а-му?!

— Семкі смажаныя. На вы-ы-б-о-о-р-р!

— Куп-лю-ю, п-ра-да-ам! Пр-р-а-дам, ку-пп-л-ю-ю!

Нэмагаючыся адагнаць ад сябе гэты гоман, які нагадвае карканьне растрывожанай зграі варон, Янка прабіраецца да бруку, цягне бацьку.

— Купіш ня купіш, а патаргавацца трэба, пахмура гаворыць сыну Дамінік і неўспадзеўкі весялее, паўтарае сваю любімую прымаўку: калі ня маю цяпер, дык буду мець у чацьвер.

Думкі-ж хлопчыка заняты іншым. Здаецца, ня ішоў-бы, а ляцеў на крылах. А тут збочвай з дарогі, прапускай рамізьнікаў. Коні з запалымі бакамі, невясёлыя. Абмытыя дажджом пралёткі блішчаць. Паднятыя будкі хаваюць седакоў. Напярэдадзе на высокіх козлах зь лейцамі у руках — гаспадары-рамізьнікі. Заўважыў Янка, што заглядаецца на іх бацька, хоча ўступіць у размову.

— Чаго вы, тата?

— Добрая справа — сам сабе гаспадар. Можа, купіць каня, заняцца рамізьніцтвам?..

Толькі зза сына й адважыўся ён пераехаць у горад. Назадоўга да гэтага наведаўся ў Косіна, і бабка Караліха параіла:

— Пераяжджай у горад, вучы сына.

Шмат чаго яна па чутках ведала, расказвала, што бываюць цуды, прабіваюцца да навукі навет простыя мужыкі... Не забыць яе слоў: «Цярплівы, добры твой хлапец, любіць кнігу, такому толькі й вучыцца». — «Што-ж, я на ўсё гатовы, не па маёй віне ён нявучаны. Да часу чалавеку не шанцуе, а там загляне сонца і ў наша ваконца», — разважае Дамінік і спадылба глядзіць на Янку.

Вось ужо бацька з сынам прамінулі Троіцкую гару, куды зьяжджаліся на кірмаш сяляне, зьвярнулі на паліцэйскую вуліцу. І тут Янка ўбачыў конку. Дзівам здаўся яму гэты фургон на колах, які цягнулі дзьве клячы. Час-ад-часу коні спыняліся, пасажыры зыходзілі на брук. Бразгатаў званочак. Нейкая жанчына, размахваючы парасонам, спыніла конку, калі тая ўжо рушыла; ледзь улезла ў яе, а кошык з прадуктамі застаўся на бруку. Конка ад'ехала. Янка падхапіў кошык, пабег сьледам. Пакуль жанчына ўпрошвала рамізьніка спыніцца, маленькі Луцэвіч ужо крочыў побач і працягваў гаспадыні яе «прапажу». Не адна, шмат рук працягнуліся да Янкі, гатовыя яму дапамагчы ўскочыць у конку.

— Ды скачы-ж, скачы! — крычалі яму з усіх бакоў. Нарэшце, і няўмольны рамізьнік спыніў коней.

— Садзіся ўжо, дарма правязу! — кіўнуў у бок Янкі.

— Навошта?! Мы пехатой дойдзем. Нам недалёка... — адказаў хлопчык і зьбянтэжыўся.

Пот струмунем каціўся па шыі, сэрца калацілася.

Хутка бацька зь Янкам спыніліся перад каменным домам з чугуннай агарожай. На дзьвярах вісела шыльда: «Менскае рэальнае вучылішча». З усіх бакоў да гэтага дому зыходзіліся рэалісты. У чорных шынэлях з аранжавымі кантамі й бліскучымі гузікамі, з какардамі на шапках, за плячыма — ранца.

Штохвіліны рашчыняліся цяжкія дубовыя дзьверы. І Дамінік, і Янка — абодва прагна глядзелі на іх, але зайсьці разам з натоўпам хлапчукоў не адважваліся, стаялі ў баку. «Хто сьпяшыць, той людзей сьмяшыць», — павучаў бацька. Прыхінуўшыся да кратаў агарожы, Янка думаў аб блізкай сустрэчы з Валодзем. Яму здавалася, што самае галоўнае — увайсьці ў гэтыя дзьверы. І ўжо тады бясспрэчна, яго пакінуць вучыцца ў вучылішчы, і ён абавязкова сустрэнецца й будзе зноў сябраваць з Валодзем. Малым хлапчукам надта хочацца заўсёды мець старэйшага таварыша. Няма й ня можа быць перашкод да гэтай сустрэчы. Навет бацька Валодзі хваліў Янку за веды, казаў: «Абавязкова паступіш...» І вось яшчэ пяць, дзесяць хвілін — і лёс яго вырашыцца. Моцна б'ецца сэрца, шчокі палаюць чырваняй, вочы блішчаць. Нічога больш ён ня хоча, толькі-б вучыцца...

Няпрыкметна падкрадаецца да яго нявысокі кірпаты хлапчук, паказвае дулю. Відаць па ўсім — забіяка. Янка спакойна ўзяў яго за руку, адагнуў пальцы.

Расчыніліся дзьверы. Стары вартаўнік некалькі разоў узмахнуў у паветры званком. «Праціўнік» адышоўся ад Янкі, кінуўся да ганку і ўжо адтуль на разьвітаньне пагразіў кулаком. Адразу стала ціха. І толькі тады Дамінік з сынам моўчкі падыйшлі да ганку, доўга аб скрэбалку чысьцілі боты. Потым бацька пастукаў у дзьверы, выклікаў вартаўніка. Пашаптаўся зь ім і кінуў Янку:

— Пайшлі!

У доўгім калідоры было пуста. Вартаўнік правёў іх у канец калідору й паказаў на дзьверы, абабітыя карычневай цыратай. Час-ад-часу Янка з чаканьнем паглядаў на бацьку. А той камячыў сваю шапку і ўсё яшчэ стаяў ля дзьвярэй дырэктара.

Зноў пачуўся званок. Загрукалі парты, дзьверы. Увесь будынак напоўніўся гулам. Паважна выходзілі настаўнікі з журналамі пад пахай. За імі, быццам выпушчаная на волю чарада авечак, зьбіваючы адзін аднаго з ног, штурхаючыся, высыпалі ў калідор рэалісты.

Забіяка адразу заўважыў Янку і, сабраўшы аднаклясьнікаў, стаў дражніцца:

— Пастух... сьвінапас... Як прыйдзеш да нас, трапіш у воўчую пасьць...

Але вось сам дырэктар выйшаў з кабінэту, прыкрыкнуў на свавольнікаў:

— Панове, папрашу цішэй! — пасьля, акінуўшы блізарукімі вачыма праз пэнснэ Луцэвіча, сказаў — калі да мяне — прашу!

«Не пазнае або ведаць ня хоча... Адна справа ў лесе ды на полі сустрэцца, іншая — тут...» — з адчаем падумаў Янка, бачачы, як нясьмела пераступіў бацька парог кабінэту.

# Сьвяткаваньні Сакавіковых урачыстасьцяў

(Працяг з 6-ай бачыны)

## Прамова кангрэсмэна Фрэнціса Э. Дорна

Паважаныя Айцы, Спадарыні й Спадары!

Некалькі дзён таму я быў надзвычай усьцешаны сустрэчай у Вашынгтоне з нашым дарагім Архіяпіскапам Васілём і вашым Старшынём з нагоды ноты, пададзенае ў Кангрэс ЗША аб угодках незалежнасьці Беларусі ды з нагоды малітвы, сказанае Яго Высокапраасьвяшчэнствам на адкрыцьці паседжаньня ў Ніжэйшай Палаце. І мне думаецца тут, што я павінен прачытаць вам гэтую цудоўную малітву, бо мне здаецца, што таксама й вы павінны паслухаць яе, як слухалі мы ў Палаце Рэпрэзэнтантаў.

Яго Высокапраасьвяшчэнства сказаў наступнае на адкрыцьці Ніжэйшае Палаты ў чацьвер 21 сакавіка 1957 году (гэта ўпісанае ў Запісы Кангрэсу таго-ж дня).

Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦ Васіль прачытаў гэткую малітву:

(Чытае ў ангельскім перакладзе малітву Архіяпіскапа Васіля, гл. у іншым месцы гэтага нумару «Б-ны»).

Я быў вельмі задаволены з магчымасьці сфатаграфавацца з гэтае нагоды з вашым Старшынём, сфатаграфавацца зь Яго Высокапраасьвяшчэнствам Архіяпіскапам Васілём на сходах Капітолю.

Дыскутуючы аб угодках незалежнасьці Беларусі з рознымі сябрамі Ніжэйшае Палаты, мне прыйшлі некаторыя думкі пра Беларусь, пра беларускую дзейнасьць вашае арганізацыі ды пра прыяцеляў гэтае арганізацыі ў Задзіночаных Штатах. І адна зь іх, якая, на маю думку, павінна бязупынна быць наўвеце ў актыўных сяброў вашае арганізацыі — гэта справазда్ньне Камітэту Замежных Справаў пры Ніжэйшай Палаце на 83-ім Кангрэсе — гэта каля двух кангрэсаў таму — кажны кангрэс цягнецца чатыры гады. На 83-ім кангрэсе адбывалася вялікая дыскусія аб значэньні для Задзіночаных Штатаў і аб значэньні для эвэнтуальнага аднаўленьня незалежнасьці Беларусі спробы навязаць між ЗША і няпраўным урадам, які знаходзіцца цяпер у Беларусі, дыпляматычныя дачыненьні. У тракце гэтае дыскусіі навукоўцы, якія радзіліся ў Беларусі ды якія цяпер выкладаюць на розных унівэрсытэтах па ўсёй Амэрыцы, зрабілі свой уклад у яе, а іхныя словы і іхныя тэмы былі зьмешчаныя ў дыскусіях над рэзалюцыяй, што была пададзеная нашаму Кангрэсу. І гэта, напэўна, паслужыла — калі для нічога іншага — прынамся для таго, каб адсьвежыць у думках сяброў Кангрэсу тыя вялізарныя ахвяры, якія панёс беларускі народ на працягу стагодзьдзяў у надзеі на незалежнасьць, у надзеі на свабоду ды ў любові таго, што мы маем тут у нашым краі. Аднак у працы на вашую карысьць, якую я праводжу ў Кангрэсе праз прыязьнь да сяброў вашае арганізацыі, я знаходжу вялікі прабел у сьведамасьці сяброў Кангрэсу і народу гэтага краю. На няшчасьце, яны мала чулі пра Беларусь. Яны ня ведаюць, што Беларусь была незалежнай. І таму вялікае заданьне, якое на маю думку, кіраўнікі і сябры гэтае арганізацыі павінны былі-б выканаць — гэта паказаць на факт, што Беларусь была і ёсьць. Гэта нічога, што Беларусь толькі ў вашых думках і сэрцах... Гаворачы сяньня тут, мне хацелася-б падкрэсьліць адзін бок дзейнасьці, які, мне здаецца, сябры гэтае арганізацыі павінны ўзяць на сябе: паведамляць пра Беларусь, прапагаваць задзіночаньне, паказваць на факт, што шмат людзей зь Беларусі жыве цяпер у ЗША. Бо мала хто ведае пра страшэннае паняволеньне, нязьлічоныя жыцьці й нязьлічоныя ахвяры мала ведамага ў ЗША беларускага краю. А што можна прыраўнаць да вялізарных мукаў беларускага народу?! І ўсё-ж мы тут мала ведаем пра гэта. Ніхто пра гэта не гаворыць, ніхто пра гэта ня піша, і толькі вашая арганізацыя, вы самі можаце выклікаць зацікаўленьне — гаворачы аб гэтым, пішучы аб гэтым, уваходзячы ў сувязь зь сябрамі Кангрэсу, што рэпрэзэнтуюць розныя часткі гораду, у якіх вы жывяцё. Навязваючы кантакты із сваімі беларускімі сябрамі па ўсіх Задзіночаных Штатах, якія ў сваю чаргу павінны навязваць лучнасьць з кангрэсмэнамі, трэба дамагацца, каб іхныя кангрэсмэны ведалі, каб іхныя кангрэсмэны маглі на ўгодкі незалежнасьці Беларусі сказаць што-небудзь, правесьці што-небудзь у Запісы Кангрэсу — каб прынамся з сэрца гэтага краю па цэлым сьвеце распаўсюджвалася вестка пра паняволеньне Беларусі і пра беларускую дзейнасьць. Мне здаецца, што гэта толькі малы пачатак. Я думаю, што вы пачнеце гэта, як вы пачалі зы мной — паведамляючы сябром Кангрэсу, што ёсьць на сьвеце Беларусь. Аднак гэта мусіць быць падтрыманае паясьненьнямі: **што** гэта — Беларусь? **Дзе** Беларусь? Чаго Беларусь дасягнула? Што можа паняволены беларускі народ зрабіць цяпер у вялізарным паходзе супраць Расеі, якім кіруюць свабодныя народы сьвету дзеля свае бясьпекі? Але пачынайце ад нас у Кангрэсе! Пасылайце дэлегацыі, наведвайце кангрэсмэнаў з вашых акругаў. Яны вас ахвоча сустрэнуць. Кажэце ім, што вы зь іхнае акругі, што вы, як амэрыканскія грамадзяне, хочаце, каб яны гаварылі ў Кангрэсе таксама пра паняволены беларускі народ. Але — ведайце! — гэта наш асабісты абавязак — у супрацоўніцтве з вашымі кіраўнікамі і духавенствам.

Дазвольце мне яшчэ раз падзякаваць вам за запросіны на вашую ўрачыстасьць. Я ўважаю за гонар далучыцца да вас, да вашых кіраўнікоў і духавенства ў вялізарным змаганьні, якое выпала на вашую долю — праз гэтую невялікую групу, што ўшаноўвае тут мінулае. Але ня жывеце ў мінулым, гэта вас нікуды не завядзе. Думайце пра будучыню, думайце катэгорыямі будучыні. Думаючы якраз гэтак, я быў-бы надзвычай задаволены з запросінаў Архіяпіскапа Васіля, зь якім мы абедалі разам у сталіцы, паабедаць зь ім, калі ён вернецца на Беларусь.

---

**OFFICE OF THE MAYOR**
**CITY OF NEW YORK**

**ПРАКЛЯМАЦЫЯ**

**У сувязі з тым, што:** 25 сакавіка 1957 году будуць трыццаць дзевятыя ўгодкі абвешчаньня вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі; і

**у сувязі з тым, што:** Беларусы ўва ўсім сьвеце сьвяткуюць 25 сакавіка ў памяць вольнай Беларусі; і

**у сувязі з тым, што:** Амэрыканцы беларускага паходжаньня адзначаюць гэтую дату пацьверджаньнем свае веры ў свабоду для ўсіх народаў і падчыркваньнем свайго перакананьня, што тыранія й дэспатызм ня могуць доўга панаваць дзе чалавек так верыць; і

**у сувязі з тым, што:** агульна прызнана, што супраціў мужнага й патрыятычнага беларускага народу супраць камуністычнага таталітарызму ніколі ня зьменшваўся й ня зьменшваецца,

**дык, вось дзеля гэтага,** я, Робэрт Ф. Вагнэр. мэр гораду Нью Ёрку, гэтым абвяшчаю панядзелак 25 Сакавіка 1957 г.

ДНЁМ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

ў горадзе Нью Ёрку ды заклікаю ўсіх грамадзян далучыцца да грамадзян беларускага паходжаньня ў малітвах за мір, свабоду й справядлівасьць у сьвеце.

(—) Робэрт Ф. Вагнэр
Мэр, Горад Нью Ёрк

---

**OFFICE OF THE MAYOR**
**CITY OF NEW YORK**

**PROCLAMATION**

WHEREAS: March 25, 1957 will be the thirtyninth anniversary of the Proclamation of the free and independent Byelorussian Democratic Republic; and

WHEREAS: Byelorussians all over the world are celebrating March 25th as a memorial to a once free Byelorussia; and

WHEREAS: Americans of Byelorussian descent are observing this date by reasserting their belief in freedom for all people and reaffirming their conviction that tyranny and despotism cannot long prevall where man so bclievs; and

WHEREAS: it is universally recognized that the resistance of the brave and patriotic Byelorussian people to communistic totalitarianism has never waned even to this day,

NOW, THEREFORE, I, ROBERT F. WAGNER, Mayor of the City of New York, do hereby proclaim Monday, March 25, 1957, as

BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY

in the City of New York, and call upon all citizens to join with those of Byelorussian origin in prayers for peace, freedom and justice in the world.

(Robert F. Wagner)
Mayor, The City of New York

---

**State of New York**
**Executive Chamber**

**ПРАКЛЯМАЦЫЯ**

25-ы сакавік 1918 г. быў днём вялікай радасьці для народу Беларусі. У гэты дзень яго край быў абвешчаны вольнай і незалежнай рэспублікай.

Але ейныя дні дэмакратычнае свабоды былі кароткімі, бо камуністычныя агенты хутка захапілі кантроль. Аднак любоў свабоды ўсё яшчэ зырка гарыць у сэрцах Беларускага Народу й дае яму дух і адвагу да супраціву перад бязбожнай і тыранічнай уладай камуністычных дэспатаў.

Так як нашы браты-Амэрыканцы беларускага паходжаньня йзноў адзначаюць угодкі незалежнасьці свае нацыі, усім нам трэба далучыцца да іх у аддаваньні пашаны мужнаму народу іхнай бацькаўшчыны, які змагаецца за свае Богам дадзеныя правы на асабістую свабоду й нацыянальную незалежнасьць.

І вось дзеля гэтага я, Эйврл Гарыман, Губэрнатар штату Нью Ёрк, абвяшчаю дзень 25 сакавіка 1957 г.

БЕЛАРУСКІМ ДНЁМ

у штаце Нью Ёрк ды заклікаю наш народ адзначыць гэта належным шляхам.

**Губэрнатар**
(Эйврл Гарыман)

**Office of the Governor**

**ПРАКЛЯМАЦЫЯ**

**У сувязі з тым,** што 25 сакавіка 1918 г. Беларусь была абвешчана дэмакратычна выбраным Нацыянальным Сабраньнем (Усебеларускі Кангрэс — Рэд.) **вольнай** і незалежнай рэспублікай; і

**Ў сувязі з тым,** што, ня гледзячы на здушэньне рэспублікі збройнай сілай расейскіх імпэрыялістычных камуністых, супраціў Беларускага Народу перад чужым камуністычным таталітарным рэжымам ніколі ня спыняўся ды міліёны беларускіх патрыётаў увесь час вераць у здабыцьцё нацыянальнае незалежнасьці й дэмакратыі для свае бацькаўшчыны; і

**Ў сувязі з тым,** што супраціў Беларускага Народу савецка-расейскаму панаваньню й бязбожнай камуністычнай сыстэме натхняе ўсюды тых, што любяць свабоду й дэмакратыю, ды стала непакоіць ягоных прыгнятальнікаў, і заслугоўвае на сымпатыю, маральную й матар'яльную падтрымку ўсяго вольнага сьвету; і

**Ў сувязі з тым,** што тысячы амэрыканскіх грамадзян беларускага паходжаньня, якія жывуць цяпер у **Нью** Джэрсі, адзначаюць 39-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі;

Дык вось, дзеля гэтага, я, Роберт Б. Майнэр, губэрнатар штату Нью Джэрсі, гэтым абвяшчаю

ПАНЯДЗЕЛАК 25 САКАВІКА 1957 г.
БЕЛАРУСКІМ ДНЁМ

у штаце Нью Джэрсі й прашу належна адзначыць яго.

(—) Робэрт Б. Майнэр
Губэрнатар

---

**PROCLAMATION**
STATE OF NEW YORK

Executive Chamber

March 25, 1918, was a day of great rejoicing for the people of Byelorussia (Whiteruthenia). On that day their land was proclaimed a free and independent republic.

But its days of democratic freedom were short-lived, for Communist agents soon sized control. But love of liberty still burns bright in the hearts of the Whiteruthenian people and gives them the spirit and courage to oppose the godless and tyrannous rule of Communist despots.

As our fellow-Americans of Whiteruthenian descent again observe the anniversary of their nation's independence, it is fitting that all of us join with them in honoring the brave people of their homeland who are struggling to enjoy once more their God-given rights to individual liberty and national independence.

NOW, THEREFORE, I, Averell Harriman, Governor of the State of New York, do hereby proclaim March 25, 1957, as

BYELORUSSIAN DAY

in the State of New York, and call upon our people to observe the occasion in every appropriate way.

BY THE GOVERNOR:
(Averell Harriman)

From: Office of the Governor

**PROCLAMATION**

Release — Saturday — March 23, 1957

WHEREAS, on the 25th day of March, 1918, Byelorussia was proclaimed by its democratically elected National Assembly as a free and independent republic; and

WHEREAS, despite the fact that this republic fell under the conquest by force of arms of the Russian imperialistic Communists, the resistance of the Byolorussian people to this foreign communist totalitarian regime never ceased and millions of Byelorussian patriots are still hoping to regain national independence and democracy for their homeland; and

WHEREAS, the resistance of the Byelorussian people to Soviet-Russian rule and to the godless cummunist system is an inspiration to lovers of freedom and democracy everywhere and a constant source of embarrassment to their oppressors, and deserves the sympathy, moral and material support of the entire free world; and

WHEREAS, thousands of American citizens of Byelorussian birth or ancestry, now residing in New Jersey, are commemorating the 39th anniversary of the proclamation of the independence of the Byelorussian National Republic;

NOW, THEREFORE, I, ROBERT B. MEYNER Governor of the State of New Jersey, do hereby proclaim

MONDAY, MARCH 25, 1957
AS BYELORUSSIAN DAY

in the State of New Jersey, and request the appropriate observance of the occasion.

GIVEN, under my hand and the Great Seal of the State of New Jersey, this twenty-second day of March in the year of Our Lord one thousand nine hundred and fifty-seven, and in the Independence of the United States the one hundred and eighty-first.

(s) Robert B. Meyner Governor

(SEAL)
BY THE GOVERNOR:
(s) Edward J. Patten Secretary of State

---

І дырэктар запраўды не адразу пазнаў свайго наведвальніка. Ён працёр насавой хустачкай пэнснэ, блукаючы вокал няўважным позіркам. Мармуровы чарнільны прыбор на стале, прэс-пап'е, стойка з акуратна завойстранымі алоўкамі, аб'ёмістая папка спраў — усё яму да моташнасьці абрыдла. Такім-жа будзённым, нудным голасам, як гэтыя рэчы, ён цярпліва напомніў Луцэвічу:

— Я вас слухаю!

Закашляўся Дамінік і, запінаючыся, зь цяжкасьцяй падбіраючы патрэбныя словы, напомніў дырэктару аб яго абяцаньні.

— А, гэта вы... Як-жа, памятаю... Добра памятаю, хлопчык на дзіва здольны...

Зноў запанавала маўчаньне. Пераступіўшы з нагі на нагу, Луцэвіч адчуваў, як перасыхае ў роце. Дырэктар не сьпяшаўся з вывадамі, закурыў папяросу, зацягнуўся. Выпускаючы дым, спакойна гаварыў:

— Так, так... Я рады дапамагчы... Калі ласка... прымем навет бяз экзаменаў... Вы ня дзякуйце, потым... Так, я сказаў усё... Астэтняе залежыць ад вас... Гэта-ж дробязі... Улічэце, плата ў нас бярэцца за год наперад, адразу-ж пры паступленьні... Дарэчы, для ўсіх абавязкова форма — касьцюм, шынэль і іншае. Вас цікавіць, колькі гэта будзе каштаваць? Можна паглядзець па прэйскуранту.

Ён знайшоў патрэбныя расцэнкі, паказаў іх. На разьвітаньне навет працягнуў белую выпеставаную руку.

Бацька выйшаў з кабінэту пахмуры, невясёлы. Заўважыўшы гэта Янка зьбялеў, на вейках заблішчэлі сьлёзы.

— Хадзем, тата, тут не для нас...

— Аскому нагоніш, пакуль ахвоту спагоніш... Перш за ўсё трэба каня купіць, там будзе відаць, — прамовіў бацька, прыкідваючы ў галаве непасільныя выдаткі.

— А конь дорага каштуе? Мусіць, усе грошы, якія ў вас ёсьць, — так, тата?

— Запытаем у людзей, прыцэнімся... Ня ўсім-жа, Ясь, вучонымі быць... Ня суньця із сваім носам туды, куды цябе ня просяць...

З гэтага дня Янка няўзьлюбіў горад. Ды й Бянігда тужыла па вёсцы. Зіму так-сяк перабылі, а на вясну яна стала ўздыхаць па сваіх градках, па кароўцы.

— Па кажную дробязь тут трэба бегчы на рынак або ў краму, за ўсё плаці... Іншая справа, калі ёсьць свой гарод, і куры, і кароўка... У нас, бывала, на вёсцы, выйдзеш на вуліцу, з усімі вітаешся, кажны з табой загаворыць. Ты яму дапаможаш, ён табе... А ў горадзе быццам суе і незнаёмыя, кажны сам для сябе стараецца, — часта скардзілася яна суседкам па кватэры.

Расчараваўся хутка й сам Дамінік. Займаючыся рамізьніцтвам, ён зьнясілеў, што ўсё часьцей пачаў хварэць. А хвараючы, ён гаварыў сваёй сям'і аб адным:

— Толькі той чалавек сам сабе гаспадар, хто мае ўласную зямлю і працуе на ёй.

Аднойчы да Волкавых прыйшоў знаёмы чыноўнік. Тэрмінова паклікалі яны да сябе й Дамініка. Празь некалькі дзён ён з гэтым чыноўнікам паехаў у Прудзішча да пана Шаброўскага і, вярнуўшыся, сказаў жонцы й Янку:

— Там аднымі ягадамі ды грыбамі пражыць можна — вакол лясы.

— А як-жа, няма таго злога, каб ня выйшла на добрае, — ахвотна згадзілася Бянігда.

### СЯРОД ЛЯСОЎ

Сярод лясоў у невялічкай лагчыне прытуліўся хутар Прудзішча. Сюды Луцэвічы пераехалі ў пачатку зімы. Усю ноч ішоў сьнег, лёгкім пухам ён лёг на галіны дрэў, абляпіў шышкі на елках, аздобіў вяршаліны. У сьнежных карунках застыглі тоненькія гнуткія галіны бяроз. Маладыя дубкі, якія не захацелі скінуць асеньняга ўбраньня, паразвоньвалі абледзянелымі бронзавымі лісткамі. А сьнег зацярушыў усе дарогі й сьцежкі і ўсё яшчэ, сыпаў і сыпаў. Добра ісьці ранкам, як толькі выгляне сонца. Іскрацца, пераліваюцца ў яго праменьнях крышталікі сьняжынак, усё вакол так бела, што й на душы становіцца сьвятлей, радасьней. Маленькія ёлачкі амаль схаваліся ў сьнежных сумётах. Жывое ўяўленьне бачыць у іх казачных герояў. Адна распушыла бараду, насунула шапку-папаху, шырока растапырыла рукі, гэта — лесавік. Другая — быццам заяц-бяляк.

Паглядзіш угару і зноў вачэй не адарвеш. Ледзь паружавелыя, у карункавым убраньні цягнуцца да сонца верхавіны сосен. Няпрыкметна павядзе рукою Янка, быццам смычком дакранецца да іх, і, пакорныя яго волі, засьпяваюць, зайграюць яны. Шырокая напеўная мэлёдыя запаўняе ўсю прастору, плыве ўдалячынь. Сьпявае ўвесь лес. Кажная галінка ў свой час так нечакана й мэлядычна падае свой голас. Быццам дырыжор, кіруе імі хлопчык. Уся душа яго выказваецца ў чароўнай песьні лесу, разам зь ім Янка і радуецца й смуткуе... Непаўторна прыгожы зімовы лес пасьля першага сьнегападу.

На шляху перакінулася аркай асінка, ня пройдзеш — трэба падлезьці пад яе, біць чалой. Хочацца Янку дапамагчы дрэўцу ўзьняцца, выпрастацца. Ці бура яго прыгнула, ці сьнег, або... само на час сьхілілася, каб устаяць ад непагадзі.

Схаваўся пад сьнегавой папахай куст бузіны, а на кончыках галінак — ледзяныя кропелькі.

— Плакала? Хто-ж цябе пакрыўдзіў? — пытае ціхенька Янка.

Ох, і ня любіць-жа ён тых, хто крыўдзіць слабейшых. Непадалёку пачуўся стук сякеры. Гэта бацька сячэ сасну, павязе дровы на продаж у горад. Ледзь хістаючыся, трывожна парыпваюць побач высокія сосны...

Слухаючы іх, Янка шэпча:

— Ня бойся не кране ён вас, ён толькі сухастой сячэ, той, што карэньняў усыхае, не расьце.

Задумаецца і ня чуе, што бацька кліча. А Дамінік злуецца:

— Чыстая бяда мне з табою... У людзей хлопцы як хлопцы, бацькам памочнікі... А тут... Хоць ты яму кол на галаве чашы, не бярэцца за работу...

Крыўдна слухаць гэтыя дакоры. Стараецца Янка дапамагчы бацьку, але сілы ў яго не хапае, ня выцягнуць бервяна із сьнегу. І так і гэтак прыступае да яго хлопчык, цягне за сабой абедзьвюма рукамі, а яно ні зь месца.

З таго часу, як не ўдалося паступіць у рэальнае вучылішча, ён больш не прасіўся ў школу, маўчаў. Вечарамі займаўся зь сёстрамі. Падсаджваўся да іх бацька. Разам зь дзяўчынкамі вучыўся ён рашаць арытмэтычныя задачы. Паглядзіць Бянігда на свайго пяршынца, змахне сьлязу. Янка стаў увесь празрысты, на вачох сохне.

(Далей будзе)

# Сьвяткаваньні Сакавіковых урачыстасьцяў

## Прамова сэнатара штату Нью Ёрк Джона П. Морысэя

Спадар Старшыня, Ваша Праасьвяшчэнства, вельмі паважаныя госьці!

Я ўважаю за гонар магчымасьць далучыцца да Вас, каб аддаць пашану Вашай рыцарскай нацыі й Вашаму народу.

Беларусы, маючы за сабой старыя традыцыі нацыянальнае сувэрэннасьці, урэшце аднавілі сваю незалежнасьць 39 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 г., пасьля даўгога паняволеньня расейскім рэжымам. Нажаль, як тут сяньня гаварылася, гэтая незалежнасьць была кароткай. У выніку шэрагу вайсковых акупацыяў, Беларуская Рэспубліка была зьнішчаная, і ейны народ паняволены йзноў. Аб трагічнай гісторыі нападу Савецкае Расеі на гэтую шляхотную й адважную нацыю гаварылася тут некалькі разоў. Ня гледзячы на даўгія гады бесьперапыннага паняволеньня Беларускі Народ здолеў захаваць сваю нацыю ды сваю нацыянальную спадчыну. Абдараны нязломнай воляй, натхнёны глыбокім патрыятызмам — патрыятызмам, ачышчаным цяжкімі выпрабаваньнямі няволі — Беларускі Народ і далей супраціўляецца сваім панявольнікам, як ён рабіў гэта столькі разоў у мінулым. Ён праяўляе такую-ж стойкасьць і жыцьцёвасьць, як і ягоныя продкі ў мінуласьці.

Уклад Беларусаў і іхных нашчадкаў у Амэрыцы даказвае жыцьцяздольнасьць іхняе нацыі. Гэта доказ, што ўпэўненасьць і вера ў будучыню Беларусі маюць пад сабой цьвёрды грунт. Апрычоная культура, глыбокія традыцыі й багатая народная творчасьць Беларусаў паважна ўзбагацілі нашу краіну. Іхны ўклад зьяўляецца вялізарным, і я ганаруся тым, што так шмат іх ёсьць грамадзянамі майго Штату й акругі.

Сяньня Беларусы знаходзяцца ў кіпцюрох найгоршае тыраніі сучаснасьці. У вабарону гэтага адважнага народу цэлы сьвет падымае свой голас справядлівага абурэньня. Ніхто ня ведае, што дакладна чакае Беларусаў у будучыні. Аднак яны могуць быць пэўныя ў вадным: яны маюць з сабой сымпатыю й добрую волю цэлага вольнага сьвету.

Кажны год выказвалася шчырая надзея, што наступныя ўгодкі застануць ужо шляхотны беларускі народ у сям'і свабодных нацыяў. І кажны наступны год мы крышку зьняверваліся, бачачы мала поступу ў кірунку да мэты.

Аднак цяпер растуць сымптомы таго, што, магчыма, ужо ў недалёкай будучыні нашы надзеі стануцца рэчаіснасьцяй. Забурэньні за Зялезнай Заслонай паказваюць вольнаму сьвету, што савецкае ўмешваньне ў справы ўсходняэўрапэйскіх народаў выклікала адраджэньне імкненьняў да незалежнасьці. Зь бегам часу гэтыя імкненьні могуць разрасьціся да памераў агульнага крыжовага паходу, які зьмяце расейскіх панявольнікаў ды верне рыцарскай Беларусі ейнае законнае месца незалежнае нацыі **Хай так захоча Бог!**

### ВАЖНЕЙШЫЯ ПУНКТЫ ПРАМОВЫ ДР. Т. Ф. ТСЯНГ, СТАЛАГА ПРАДСТАЎНІКА КІТАЮ Ў ААН

У Аб'еднаных Нацыях я памог шэрагу краінаў здабыць незалежнасьць, як, прыкладам, Інданэзіі, Лібіі, Тунісу, Марокко й Гана. Я вельмі хацеў-бы мець магчымасьць памагчы таксама й Беларусі. Я абяцаю Вам, што пры кажнай магчымай нагодзе, калі я буду магчы гаварыць ці дзеіць у кірунку беларускае свабоды, я гэта бязумоўна зраблю. Я ўважаю нацыянальную незалежнасьць і свабоду адным з асноўных правоў, якое належыць усім народам. Адмаўляць Вам гэтую свабоду зьяўляецца злачынствам, а злачынца — гэта Савецкі Саюз.

Гаворачы Вам гэтыя рэчы, я ня кіруюся ніякімі варожымі пачуцьцямі ў дачыненьні да расейскага народу. Расейцы самі зьяўляюцца ахвярамі камунізму. Яны, як і вы, змагаюцца за свабоду. Я думаю, што ў умовах свабоды й роўнасьці Беларусь і Расея могуць быць добрымі прыяцелямі й добрымі суседзямі, так як Канада й Задзіночаныя Штаты добрыя прыяцелі й добрыя суседзі.

Для прапагандовых мэтаў Савецкі Саюз крычыць аб суіснаваньні. Каб давесьці сваю шчырасьць Савецкі Саюз павінен быў-бы дазволіць балтыцкім дзяржавам, Польшчы, Беларусі, Украіне, Вугоршчыне, Баўгарыі й Румыніі суіснаваць у міры й свабодзе. Вялікая Брытанія й Францыя ў Заходняй Эўропе дазваляюць сваім малым суседзям — Даніі Галяндыі, Бэльгіі й Люксэмбургу — суіснаваць у міры й свабодзе. Задзіночаныя Штаты дазваляюць малым дзяржавам Цэнтральнае Амэрыкі суіснаваць з ЗША ў міры й свабодзе. Тое, што робяць заходнія вялікія дзяржавы ў Заходняй Эўропе, і тое, што робяць Задзіночаныя Штаты ў Амэрыцы павінна быць нормай міжнародных узаемадачыненьняў у XX стагодзьдзі. Тое-ж, што Савецкі Саюз зрабіў у Ўсходняй Эўропе, варочае сьвет да эпохі барбарства.

У раёне Ўсходняй Эўропы шмат іншых народаў змагаюцца таксама за свабоду. Акрамя Беларусі, там, як я сказаў, у гэткім-жа становішчы знаходзяцца балтыцкія дзяржавы, Пальшча, Украіна, Вугоршчына, Баўгарыя й Румынія. Вашы ўдачы аблягчаюць іхняе змаганьне, а іхнія ўдачы аблягчаюць Вашае. Акрамя таго, на ўсход ад Савецкага Саюзу знаходзяцца іншыя народы, якія вядуць такое-ж змаганьне. Я маю наўвеце Паўночных Карэйцаў, Кітайцаў на кантынэньце й Паўночных В'етнамцаў. Вашы ўдачы ўва Ўсходняй Эўропе спрычыняюцца да іхных удачаў ува Ўсходняй Азіі. З другога боку, іхнія ўдачы ўва Ўнходняй Азіі аблегчаць Вашае змаганьне ўва Ўсходняй Эўропе. Мы вядзем тое самае змаганьне, мы змагаемся супраць таго самага ворага. Мы толькі змагаемся на розных франтох агульнага змаганьня за свабоду. Ніколі не забываймася аб гэтым. Падтрымоўвайма сябе ўсім чым можам. Хоць мы ў Кітаі ведаем ня вельмі шмат пра Беларусь, мы даем Вам поўную падтрымку.

Людзі, якія сымпатызуюць Вам ува Ўсходняй Эўропе й нам на Далёкім Усходзе ў гэтым змаганьні за свабоду часамі вагаюцца, ці, можа лепш сказаць, сумляваюцца. Яны баяцца, што гэтае змаганьне за свабоду можа выклікаць трэцюю сусьветную вайну.

Прыхільнікі свабоды маюць адзін агульны недастатак. Яны баяцца магутнасьці Савецкага Саюзу. Гэта зьяўляецца асноўнай прычынай таго, што Задзіночаныя Нацыі не зрабілі нічога, каб дапамагчы Вугоршчыне ў лістападзе мінулага году. А страх ня можа быць асноўнай рацыянальнае палітыкі. Савецкі Саюз выкарыстоўвае гэты страх, і ўсімі сяродкамі размалёўвае перад вачыма вольных народаў вельмі перабольшаны вобраз савецкіх эканамічных і палітычных удачаў. Я перакананы, што гэты савецкі волат стаіць на гліняных нагах.

Мы ў Вольным Кітаі не баімося ні Савецкага Саюзу, ні камуністых у нашай краіне на кантынэньце. Мы мерым іх запраўднай меркай. Мы ведаем, што ніводзін народ ня можа здабыць свабоды, не змагаючыся за яе. Мы гатовыя прынесьці найбольшую ахвяру — аддаць нашыя жыцьці.

На доўгую мэту, сьвет ня можа цешыцца мірам без свабоды для ўсіх. Вайну робяць дыктатары, а не свабодныя народы. Каб зьнішчыць запраўдныя войны, трэба зьнішчыць усе дэспатычныя рэжымы.. Перадумайма добра гэтую справу. Ці можа хто-нэбудзь паказаць шлях да міру без свабоды? Вы ўва Ўсходняй Эўропе і мы на Далёкім Усходзе, змагаючыся за нашую свабоду, адначасова змагаемся за запраўдны мір.

Я спадзяюся, што недалёкі той дзень, калі Вы ўсе будзеце сьвяткаваць Незалежнасьць Беларусі ў Вашай сталіцы — Менску.

## Мэльбурн (Аўстралія)

Сёлета 39-ыя ўгодкі абвешчаньня Беларусі вольнай і незалежнай Рэспублікай Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі супольна із Згуртаваньнем Беларускіх Камбатантаў у Вікторыі скромна, але ўрачыста, сьвяткавалі ў Мэльбурне 24 сакавіка.

Пасьля Багаслужбы ў Украінскай АП Царке украінскія сьвятары а. Іван і а. Барыс адслужылі малебен за Беларускі Народ. Прыгожае казаньне мітрафорнага пратаерэя а. Івана ды вялікі бел-чырвона-белы сьцяг перад аўтаром стварылі сьвяточны настрой.

На Акадэмію, якая адбылася зараз пасьля малебну ў залі пры царкве, сабралася шмат людзей, між якімі прысутнасьць моладзі асабліва нас цешыла. Перад пачаткам Акадэміі сп-ні Яўневіч і Курковіч раздавалі прысутным беларускія сьцяжкі, за якія было сабрана 4 ф. 7 ш. 6 п. на беларускую школу ў Мэльбурне.

Акадэмію адкрыў сп. Нікан. Вітаючы прадстаўнікоў братніх нам народаў — Украінцаў і Казакаў, гасьцей і сябраў беларускіх арганізацыяў у Мэльбурне, сп. Нікан падчыркнуў, што Акт 25 Сакавіка — гэта найлепшы адказ расейскім і польскім імпэрыялістым, якія пасягаюць на нашыя нацыянальныя правы.

У далейшым віталі Беларусаў з нацыянальным сьвятам: сп. М. С. ад імя Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў, а. Іван — ад імя кансісторыі УАПЦ у Аўстраліі, а. Барыс — ад імя Сьв. Пакроўскай Украінскай парахвіі, інж. Шэмет — ад імя Украінскай Грамады ў Вікторыі, інж. Яворскі — ад імя УНРады, палкоўнік Лысэнкаў — ад імя Казакаў у Аўстраліі ды сп. Буштэт — ад імя Украінскіх Камбатантаў у Вікторыі. Прамоўцы выразілі сваю сымпатыю да Беларускага Народу ды падчыркнулі прагрэс беларускага вызвольнага руху, а таксама важнасьць супрацоўніцтва й супольнага змаганьня з нашым акупантам — камуністычнай Масквой.

У рэфэраце «39-ыя ўгодкі 25-га Сакавіка», які прачытаў сп. П. Мікуліч, рэфэрэнт зьвярнуў увагу на нашую слаўную мінуўшчыну пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага.

Пасьля рэфэрату паэта Алесь Салавей прадэклямаваў вынятак із свайго апошняга твору «Вянкі».

Сп. М. С. прачытаў даклад «Рада й Урад БНР — носьбіты сувэрэннасьці Беларусі», затрымоўваючыся даўжэй на жыцьці й дзейнасьці старшыні Рады БНР — Крэчэўскага, Захаркі й інж. Абрамчыка.

Музыкай на акардэонах у выкананьні сямігадовага й дванаццацігадовай — Карпаў ды адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну закончылася Акадэмія.

**Прысутны**



**Прысутныя на Акадэміі прысьвечанай сьвяткаваньню 25 сакавіка ў Мэльбурне (Аўстралія)**

**З нагоды Вялікадня складаем усім нашым Паважаным Кліентам шчырае прывітаньне — Хрыстос Уваскрос!**

**Беларуская Кальпартажная Агенцыя Лёндан, В. Брытанія**

*Фэльетон*

## «Лісты да сабакі»

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьня»)**

Дарагія Грамадзяне!

Да гэтага часу ў маёй галаве іржавым цьвяком сядзелі сумлевы, ці варта пісаць лісты або вершы, напрыклад, да сабакі. Бо, бачыце, нават пры савецкай найбольш дэмакратычнай і перадавой навуцы, яшчэ сабакі не навучыліся чытаць і чуць-чуць умеюць расьпісацца. Таму яны напэўна гэтых вершаў не прачытаюць. Праўда, здараліся паэты, якія пісалі вершы сабакам, напрыклад, Есенін, або наш Язэп Пушча. Хоць сабакі гэных вершаў ня чыталі, усё-ж у літаратуры засталіся праўдзівыя пэрлы паэзіі, і яны напэўна перагрываюць усе оды ў гонар Сталіна, партыі й кукурузы.

Вось-жа, грамадзяне, разважыўшы гэта ўсё, я не бяз прычыны меў сумлевы. Але сяньня яны ўжо зьніклі, разьвеяліся, быццам-бы іх сабака хвастом змахнуў. А сталася гэта пры дапамозе галоўнага палітрука беларускай літаратуры, Пятруся Броўкі. Як ведаем, Броўка ў партыйнай дыялектыцы падкаваны на ўсе чатыры й войстра. Ён заўсёды дзяржаў нос да ветру, а вуха пры зямлі, каб чуць, што ў траве пішчыць і што ў Маскве бурчыць.

Пятрусь Броўка з трыбуны зьезду пісьменьнікаў аўтарытэтна й безапэляцыйна сказаў, што лістоў і вершаў да сабак ня толькі ня трэба пісаць, але й ня можна. Узьлезшы на трыбуну, ён войстра гукаў: «Лісты да сабакі» Язэпа Пушчы правільна раскрытыкаваныя нашай грамадзкасьцю. Мы ня маем ніякага права забывацца ідэялягічнай барацьбы, праводжанай нашай партыяй!..»

Тут варта было-б папытацца, ад якога гэта часу кампартыя сталася грамадзкасьцяй? Партыйцаў у Беларусі толькі крышку больш як тры працэнты, а рэшта — 96 з хвосьцікам — грамадзкасьць. На жаль грамадзкасьці, Язэпа Пушчу засудзіла й загубіла партыя.

Але вяртаемся да Броўкі. Вось-жа гэты еўнух беларускай літаратуры вучыць, аб чым пісьменьнікі маюць пісаць: аб Леніне й партыі трэба пісаць дзень і ноч; аб канале Волга-Дон ды іншых Беламор-каналах — пісаць якнайбольш; аб знатных сьвінарках варта пісаць тры разы ў тыдзень; аб хрушчоўскай кукурузе — таксама. Калі-ж ужо які-небудзь пісьменьнік ёсьць вялікім прыяцелем жывёлы, можа пісаць вершы знатнай карове, але толькі такой, якая здае дзяржаве ня менш за 300 літраў малака. Калі сьвіняматка дае 20 парасят у год — варта натхніцца ейным прыкладам і прысьвяціць ёй оду...

Сэнс даўжэзнай прамовы Броўкі менш-больш такі: «Бярэце прыклад зь мяне! Я дзень і ноч бязупынна пісаў оды ў гонар карыфэя й сонейка — Сталіна, цяпер пішу гімны ленінскай муміі, кажны дзень усхваляю родную партыю й ад часу да часу ў парадку ідэялягічнага змаганьня, з бяспрыкладнай адвагай лаю беларускіх эмігрантаў і іншых акулаў імпэрыялізму. Але я ніколі не спаскудзіў свайго пяра, пішучы да сабакі, тымбольш, што сабачая грамадзкасьць яшчэ выразна ня ўлучылася ў будову камунізму. Таму вы ня маеце права пісаць вершаў сабакам, а тымбольш нацкоўваць іх на родную камуністычную партыю!..»

Затое Броўка выразна нацкоўвае партыю на сваю братву — пісьменьнікаў, калі кажа: «Вы бачыце, ў нашым друку пачалі зьяўляцца творы Александровіча, Звонака, Хведаровіча й іншых. Але мы не павінны забывацца й на ідэялягічныя памылкі, зробленыя ў свой час некаторымі зь іх...»

Іншымі словамі: «Гэта нічога, што Сталін замарынаваны ў маўзалеі, але вы занадта не расьпяразвайцеся й дзяржэце вуха войстра, бо мы вас ізноў за вушка ды на сонейка!..»

Але аб гэтым іншым разам.

Цяпер-жа, вяртаючыся да тэмы, мушу сказаць, грамадзяне, што на пачатку сваёй гутаркі я ўпёк гарачку: упорыстыя сумлевы йзноў вярнуліся. І я йзноў думаю, што лепш пісаць добрыя вершы да сабакі, чымся партацкія оды да Сталіна й камуністычнай партыі...

Значыцца Пятрусь Броўка мяне не пераканаў.

**ПС**

*Зь беларускага жыцьця*

### РАЗЬВІТАЛЬНЫ ВЕЧАР З АЙЦОМ ЧАРНЯЎСКІМ

Дня 21-га сакавіка г. г. беларускія студэнты Лювэнскага Унівэрсытэту ладзілі разьвітальны вечар а. Чарняўскаму, як. 22-га сакавіка выехаў у ЗША. На вечары быў прысутны Апостальскі Візытатар для Беларусаў Яго Эксцэленцыя Ўладыка Слосканс, сакратаром якога быў а. Чарняўскі.

Усе зь вялікім смуткам разьвітваліся з паважаным а. Франуком. Гэта можна было бачыць па сумных выразах твараў, а таксама пачуць зь некалькі разьвітальных прамоваў ськіваных ад'яжджаючаму.

Шмат выехала апошнімі гадамі з Бэльгіі нашых суродзічаў, шмат прыходзілася разьвітвацца, аднак «ня ўсе разьвітаньні роўныя...», як зазначыў у сваіх разьвітальных словах старшыня Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня. За так кароткі час пабыту а. Франука ў Бэльгіі мы зь ім так зжыліся, што ўзапраўды вельмі шкада было, што ён нас пакідае. Зрэштай, кажны нас зразумее, хто знае, ці пазнае а. Франука.

Жадаем яму на новым месцы плённае нацыянальна-рэлігійнае працы, а таксама шчасьлівага й доўгага жыцьця.

**Студэнт**

### ПЕРАЕЗД Я. В. П. АРХІЯПІСКАПА СЯРГЕЯ

Дня 22-га сакавіка Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Сяргей выехаў мараплавам з Сыднэй у Пэрт, дзе мае будавацца беларуская царква БАПЦ і дзе Ўладыка мае затрымацца даўжэйшы час. З Уладыкам паехаў а. Мадэст Яцкевіч, які нядаўна прыехаў у Аўстралію з Аргентыны.

Беларусы ў Сыднэю сардэчна разьвіталіся з Уладыкам, які пражыў тут больш за пяць год, ды пажадалі Яму шчасьлівага падарожжа да новага месца пражываньня ў Пэрт (Заходняя Аўстралія).

Па дарозе Ўладыка з а. Мадэстам затрымаліся на дзень (24-25 сакавіка) у Мэльбурне, ды мае затрымацца таксама яшчэ ў Адэляйдзе. Вельмі добрая нагода пабачыць сваіх вернікаў ды правесьці гутаркі зь сябрамі Эпархіяльнае Ўправы БАПЦ ў Аўстраліі на актуальныя тэмы.

У Мэльбурне Ўладыку вітала беларуска-украінская дэлегацыя.

**М. Н.**

### «Гаворыць Радыё Вызваленьне»

Пад такім загалоўкам Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне» ў Мюнхэне выдала друкам першую кнігу выбраных скрыптаў, якія перадаваліся на Бацькаўшчыну пачынаючы ад заснаваньня Беларускае Сэкцыі ў травені 1954 году аж да 10 лістапада 1956 году. Кніга, апрача ўступнай прадмовы, зьмяшчае звыш 60 скрыптаў і абыймае 144 бачыны друку.

Мэтай гэтага выданьня ёсьць пазнаёміць беларускую эміграцыю з характарам і зьместам беларускіх перадачаў Радыя «Вызваленьне», якіх ня чуваць на Захадзе, бо яны накіроўваюцца вылучна на тэрыторыю Беларусі.

Зборнік «Гаворыць Радыё Вызваленьне» ў найбліжэйшых днях будзе разасланы поштаю ўва ўсе беларускія грамадзкія ўстановы ўсіх краінаў расьсяленьня беларускае эміграцыі, а таксама на адрас некаторых прыватных асобаў, што займаюцца кальпартаваньнем беларускага друку з просьбай як найбольшага пашырэньня гэтага выданьня сярод шырокіх колаў нашае эміграцыі. Усе жадаючыя зборнік «Гаворыць Радыё Вызваленьне» могуць яго атрымаць **бясплатна**.

Цяпер Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне» прыступіла да ўкладаньня 2-ой кнігі выбраных скрыптаў. Ува ўсіх справах, што датычаць успомненага зборніка, трэба зьвяртацца на адрас:

**Radio „Liberation“**
**Byelorussian Desk**
**München 19**
**Lilienthalstr. 2**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**